


# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714




http://niva.bialystok.pl

redakcja@niva.bialystok.pl

№ 17 (3180) Год LXII | Беласток, 23 красавіка 2017 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)





# Чаму замоўк Яша Бурш?

Здаўна цікавіла мяне, чаму замоўк Яша Бурш. Называлі ж яго «бацькам беларускага мадэрнізму», ажно аднаго дня ён замоўк і ніхто нічога пра гэта не ўмеў толкам расказаць. А чалавекам быў жа надзвычайна дзейсным. Калі ў 1957 г. заканчваў Варшаўскую акадэмію мастацтваў, быў ужо вядомы чытачам «Нівы». Дэбютаваў у ёй артыкулам пад крыптанімам Я. С. («Ніва» ад 9.02.1957), у якім даказваў неабходнасць аб'яднання беларускіх творцаў у Польшчы. Таксама ў «Ніве» (9.08.1958) пад псеўданімам Ян Станіслаў ён дэбютаваў як паэт. Быў адным з суарганізатараў беларускага літаратурна-мастацкага руху ў Польшчы, перш за ўсё Беларускага літаб'яднання, якое праз нейкі час прыняла імя «Белавежа». І вось на пачатку 1970-х Яша Бурш знікае з літаратурнага і наогул беларускага жыцця.

Дагэтуль яшчэ ўсюды можна прачытаць, што сапраўднае прозвішча Яшы Бурша — Ян Анісэровіч, які нарадзіўся 12 лістапада 1929 г. у Баранавічах. Тым часам год таму ў «Ніву» напісаў Ігар Ганчарук, што сапраўднае прозвішча Яшы Бурша зусім не Ян Анісэровіч і падаваў ён несапраўдную дату нараджэння, толькі Іван Бокша, народжаны ў 1925 г. (магчыма як сын Мікалая). Іван Бокша ўцёк у Польшчу, баючыся рэпрэсій за тое, што падчас нямецкай акупацыі як студэнт медвучылішча ўступіў у рады Беларускай самааховы. І пісаць вершы пачаў не ў 1956, але яшчэ ў Баранавічах. Цэлую скрынку са сваімі вершамі закапаў перад тым, як паехаў у Польшчу. У Польшчы не выявіў нікому сваёй сапраўднай тоеснасці. Ніколі таксама не наведаў Беларусі. Тым не менш утрымліваў кантакт са сваёй дваюраднай сястрой, Валянцінай Бокша, дачкой Канстанціна, якая нават некалькі разоў наведвала яго ў Польшчы. Ігар Ганчарук піша ўсё-такі і пра родную сястру Івана Бокшы, да якой той звярнуўся з просьбай, каб адкапала скрынку з ягонымі вершамі, але магчыма, што рэч ідзе пра сястру стрыечную. Што сталася са скрынкай, на жаль, невядома.

Прачытаўшы допіс Ігара Ганчарука, я стаў падазраваць, што сапраўдная тоеснасць Яна Анісэровіча стала вядомай тайным службам. Выхад на кантакт з сям'ёй быў вялікай рызыкай. Так папаўся ў рукі Службы бяспекі Язэп Найдзюк, які жыў у Польшчы пад прозвішчам Юзаф Александровіч. Да таго ў «Ніву» напісаў Дзмітры Шатыловіч, які, прачытаўшы допіс Ганчарука, успомніў, што Яша Бурш скардзіўся яму ў 1969 г., што «Ніва» перастала яго друкаваць і ў сувязі з тым вырашыў прысвяціць сябе мастацтву. Стала праўдападобным, што адмаўленне пісаць вершы не было самастойным рашэннем паэта.

На жаль, у матэрыялах Інстытута нацыянальнай памяці няма ніякага следу двайной тоеснасці Яна Анісэровіча ды нічога, што кранала б ягоную дзейнасць у беларускім асяроддзі. У іх знаходзяцца толькі пашпартныя справы мастака. Тым не менш, яны асвятляюць некаторыя моманты з жыцця паэта і мастака.

У 1971 г. у Яна Анісэровіча з'явіліся сур'ёзныя праблемы. У снежні затрымалі яму пашпарт перад ад'ездам на гадавую творчую стыпендыю ў Італію. Гэта быў вынік інтрыг у сувязі з выбарамі ў варшаўскай арганізацыі Польскага саюза мастакоў, у якой ён быў намеснікам старшыні. У асобнасці, супраць Анісэровіча выступіла ячэйка ПАРП, якой ён быў першым сакратаром, дакараючы ў фінансавых злоўжываннях. Інтрыга мела на мэце не дапусціць Анісэровіча да выбараў ва ўлады Саюза і перашкодзіць яму ў выездзе ў Італію. Яго прыпынілі ў абавязках намесніка старшыні і завялі на яго крымінальную справу. У карэспандэнцыі, якая завязалася між высокімі функцыянерамі службаў у сувязі з затрыманнем пашпарта Анісэровіча, адзін з чыноўнікаў Міністэрства ўнутраных спраў назваў яго «draniem i malwersantem». Усё ж такі працэктар мастака, палкоўнік Рутка, намеснік каменданта па справах бяспекі Камендатуры МО сталічнага горада Варшавы, перамог. Анісэровічу вярнулі пашпарт і ён паехаў у Італію разам з жонкай. Усё ж такі нешта адмоўнае відаць адбывалася надалей па партыйнай лініі, паколькі ў 1973 г. Анісэровіч падае, што ён беспартыйны. Але ў 1975 г. ён зноў член ПАРП.

Некалькі слоў трэба прысвяціць жонцы Яна Анісэровіча, Ірэне з роду Жураўскіх, народжанай у Варшаве ў 1930 г. У 1970 г. закончыла вышэйшыя студыі са ступенню магістра палітычных навук. А год пазней яшчэ і сацыялогіі (сацыялогія культуры). Не вядома калі зрабіла магістэрыюм з філасофіі (эстэтыка). Зараз пасля заканчэння магістарскіх студыяў паступіла ў кандыдацкія студыі па філасофіі. Пад канец 70-х апублікавала два артыкулы, прысвечаныя Герберту Рыду, англійскаму тэарэтыку мастацтва, паэту, эсэісту, літаратурнаму крытыку, пры тым яшчэ і анархісту. Апублікавала таксама ў суаўтарстве тэкст да каталога прац Станіслава Жултоўскага. Відаць гэта таксама яна пад дзявочым прозвішчам Жураўская апублікавала ўступ да каталога выстаўкі свайго мужа ў варшаўскай «Захенце» ў 1983 г. Усё ж такі найважнейшая за навуковую кар'еру месцы працы Ірэны Анісэровіч. На пачатку 1970-х яна лектар у Міністэрстве ўнутраных спраў, старшы выкладчык Акадэміі ўнутраных спраў, а з 1975 г. — інструктар ЦК ПАРП. Толькі каля 1979 г. перайшла на працу ў РСВ Праса- Ксёнжка-Рух як публіцыст.

Як піша Ганчарук, Бокша баяўся выяўлення, беручы пад увагу не толькі сябе, але і кар'еру сваёй жонкі. Кар'ера Ірэны Анісэровіч (Жураўскай) не пакідае сумненняў, што была яна звязаная з вельмі важным ведамствам — Міністэрствам унутраных спраў. Можна не сумнявацца, што гэта жонка арганізавала адпор варажэнькам Анісэровіча ў Саюзе мастакоў.

Анісэровічу фактычна свяціла кар'ера мастака. Апрача стыпендыі ў Італіі з'ездзіў у Іспанію. Ён стаў вядомым у Польшчы, лаўрэатам многіх польскіх ды міжнародных прэмій, меў больш за 50 персанальных і больш за 100 калектыўных выставак жывапісу (польскіх і міжнародных). Яго карціны знаходзяцца ў фондах многіх музеяў, у тым ліку ў Нацыянальным музеі ў Варшаве і музеі Эрмітаж у Санкт-Пецярбургу.

Можна сказаць, што Анісэровіч, пазбыўшыся свайго паэтычнага альтэр-эго Яшы Бурша, дасканала ўпісаўся ў сістэму. Дый нічога дзіўнага, што калі ўлады ваеннага палажэння развязалі Саюз польскіх артыстаў-мастакоў, Анісэровіч уступіў у Саюз польскіх артыстаў-мастакоў і графікаў і ў 1989 г. ён ужо старшыня гэтага саюза, узнагароджаны Кавалерскім крыжам Ордэна адраджэння Польшчы. Але ў гэтым жа годзе адраджаецца Саюз польскіх артыстаў-мастакоў.

Такім чынам можна сцвердзіць, што матэрыялы ІНП не дазваляюць звязаць змаўкненне Яшы Бурша з выкрыццём ягонай сапраўднай тоеснасці, хаця адразу трэба ўдакладніць — матэрыялы, з якімі я пазнаёміўся. Напэўна таксама прычынай не магло быць недрукаванне ягоных вершаў — апошні быў надрукаваны ў 1974 г. Пад канец 1960-х мянялася эпоха і да ўлады прыйшоў Эдвард Герэк з лозунгам маральна палітычнай еднасці народа, вядома — польскага. За тым пайшла ліквідацыя беларускіх устаноў. Іван Бокша быў тонкім паэтам як Яша Бурш, але як мастак Ян Анісэровіч відавочна моцна ступаў па зямлі. Трэба таксама помніць, што Івану Бокшу ў 1970 г. сапраўды споўнілася ўжо сорак пяць. Розныя рашэнні мужчыны прымаюць у падобным узросце.

**Алег ЛАТЫШОНАК**

## Вершы Яшы БУРША

### БЕЛАВЕЖА

Сып мне снегам у твар
вастры на вейках іней
прыпадабнюся
да пнёў
і да галля
у сваё зацішша зваблю
сарнаў трух
у іх інстынкты
розумам пранікну
каб век даўжэйшым
шпаркасць кулі затрымаю

### РАЗМОВА ЦЕЛА З ДУШОЙ

Ты не ўмела карыстацца
свабодай
мушу гніць
тут
доўгія гады
я выперла цеснату
унутранасці
яшчэ перад усведамленнем
пагаднення
ты ўжо мела ліхую канструкцыю
насіла мяне
на банкеты таямніцы
з забароненых крыніц
піць ром прычын
я не змясцілася
ты
адкрыла вусны

### НА ЎЛАСНЫ КОШТ

Успакойся
матка
зышла з варты
у чарговасць лёсу
ты застаўся
сярод рэпарцёраў тваіх хібаў
людская ўстанова
выставіла табе
рахунак
— вылічыла легкадумнасць
на ўласны кошт

### З СЯБЕ

Пішу вершы
каб паўтарыць сябе
на вонкі
пішу вершы
каб завязаць кантакт
з сабою
невысказаным
шукаю мэт
да людзей
пакінуўшых
вытаптаныя сцежкі
каб паказаць ім
дарогу
у Беларусь
і ...
перажываю
саромлюся





# Новы
## палітычны калейдаскоп

Амерыканскія „тамагаўкі” паляцелі на ваенныя аб'екты сірыйскага дыктатара. І прыляцелі дакладна туды, куды і былі выпушчаны. Рэакцыя амерыканскай ваеннай машыны на прымяненне сірыйскімі войскамі хімічнай зброі аказалася імгненнай. Адрэагавала не толькі ваенная машына, але і палітычная эліта таксама. Гэтым разам ніякіх эмацыйных крыкаў у шырокіх міжнародных залах, збудаваных выключна для бездапаможнага развядзення рук у бакі ўплывовымі асобамі свету і прыняцця рэзалюцый кшталту „глыбока занепакоеныя”, або „выказваем абурэнне”. Цяпер усё аказалася па-іншаму. Заклікі Крамля, што трэба зараз доўга разбірацца, хто там так няўдала распарадзіўся зброяй масавага паражэння, атрымалі жорсткі адказ Белага дома, што ёсць на тое дакладныя звесткі, хто і як распарадзіўся той зброяй. І яны не на карысць сірыйскай улады.

Такая актыўнасць Вашынгтона прыдала рашучасці і яго саюзнікам. Свет змяніўся ў адно імгненне. Час трыумфу палітычных хуліганаў, якія бралі верх на міжнароднай арэне над кожнымі лагічнымі развагамі і ўгаворамі цывілізаванага свету, каб тыя не буянілі, скончыўся. Ім больш не хочуць саступаць толькі з тае прычыны, што яны палітычныя хуліганы і што толькі яны маюць права псіхаў валодаць манаполіяй на задзірысты радыкалізм. І зразумела чаму. Хуліган толькі да тае хвіліны смелы і толькі тады трымае ў страху іншых, пакуль на даляглядзе не з'яўляецца паліцыянт. Тады ўсё становіцца на свае месцы. І тут у сілу ўступае зусім іншае правіла, якое дэкларуе, што каб слыць каралём, трэба быць каралём. Ну а калі ты не кароль, то паводзь сябе адпаведна. А то ў нос можна дастаць.

Палітычная раскладка ў свеце памянялася ў імгненне вока як пры павароце калейдаскопа. Нібыта і корпус не разваліўся, і геаметрычныя фігуры засталіся, але сталі зусім іншыя. І як не круці той калейдаскоп, ці ў той бок, ці ў адваротны, былога малюнка ўжо не будзе.

Таму зараз усе сур'ёзна задумаліся, што гэтая новая раскладка нясе для іх краіны. Задумаліся і кіраўнікі таталітарных дзяржаў і іх унутраныя апаненты. З'явіліся развагі і пра Беларусь. Маўляў, такая рэзкая змена на міжнародным палітычным полі пойдзе не на карысць Беларусі. У прыватнасці, выказваюцца думкі, што расійскі кіраўнік будзе шукаць, чым яму кампенсаваць тыя маральныя і рэпутацыйныя страты ў свеце, якія ён панёс. І як быццам бы самы просты шлях іх нечым пакрыць, гэта па-гаспадарску замацавацца на зямлі заходніх суседзяў, а то і ўвогуле на зло лютаму ворагу абвесціць Беларусь сваёй вотчынай. Балазе, глеба для гэтага падрыхтавана даўно.

Але тут трэба проста ўспомніць, што расійскі лідар ніколі не хаваў свайго жадання далучыць Беларусь да сваёй краіны цалкам або часткамі. І каб мог, то даўно гэта зрабіў бы незалежна ад уздыму ці падзення яго рэпутацыі ў свеце. І заяўляў ён пра неабходнасць такога далучэння задоўга да таго, як праславіўся тым, што нібыта вывеў усю хімічную зброю з Сірыі і такім чынам выратаваў сірыйскага кіраўніка ад ракетнага ўдару Амерыкі.

Як аказалася не ўратаваў, а толькі адцягнуў непазбежнае. Так і з Беларуссю. Каб мог, то даўно далучыў бы яе да бязмежных тэрыторый сваіх уладанняў. Ну а сённяшняя сітуацыя тым больш неспрыяльная для такіх дзеянняў. На фоне таго, як лідары вялікай сямёркі абмяркоўваюць уведзенне новых санкцый, а народ Расіі ўсё больш актыўна пачынае патрабаваць справядлівасці і нават змен, планаваць новыя авантуры гэта тое самае, што з заробкам калгасніка планаваць купіць замак у Шатландыі. Марыць пра гэта то можна. Як гаворыцца, калі ты пра нешта марыш, дык ні ў чым сабе не адказвай. Але не планаваць.

Таму Расія зараз стаіць перад галоўным для яе выбарам, калі не быць разам, дык хоць не супрацьстаяць цывілізаванаму свету. А Захад не зачыняе перад ёй мажлівасці нават быць разам. У такой сітуацыі самы час задумацца як з меншымі стратамі для рэпутацыі вярнуць захопленае, а не як захапіць яшчэ.

Ну але калі Расія яшчэ мае такі выбар, то з яе постсавецкімі хаўруснікамі сітуацыя яшчэ горшая. Яны ўвогуле губляюць усялякую вагу. І патрэбу таксама.

❖Віктар САЗОНАЎ



# Вось
## дык штука!

Правам глыбокага паклону, калі Аляксандр Лукашэнка пакорліва схіляецца ў бок Захаду, дык азадак паказвае Расіі. І наадварот. Цяпер усё наадварот. А нядаўна было наадварот наадварот. Ці ж яму пазваночнік не забаліць? У клопаце пра яго здароўе, гэтыя прэзідэнцкія звілістыя рухі назавем меандраваннем. І Аляксандр Лукашэнка сапраўды выгінаецца бы тая рака Нарва. Няхай не крыўдуе рака — раз туды, раз растуды. Раз на Захад, другі раз на Усход. Нарва мае яшчэ і яцвяжскія спасылкі, што там ёй беларушчына, ці пальшчызна. Але яе крыніцы б'юць на сучаснай тэрыторыі Беларусі, большасць яе праплывае па польскай тэрыторыі. Яна цячэ так, як Бог загадаў, але неяк і супраць яго. Закрунецца сюды, завінецца туды, дзесьці загнецца назад, дзе яшчэ адштурхнецца моцна наперад. Па-мойму, верціцца яна так, таму што хоча не пакідаць сваёй матчынай яцвяжскай зямлі. Прыгадаю, што яцвяжскі балцкі народ, цесна звязаны з прусамі і літоўцамі, пражываў у раёнах, якія ляжаць цяпер у асноўным на паўночным усходзе Польшчы і заходняй частцы сучаснай Беларусі. Дадам, што народ гэты вымер альбо быў знішчаны датла ў шаснаццатым стагоддзі. Прытым былымі беларусамі і палякамі. Але ў мяне ёсць сябар, які ад прашчураў мае польскі пашпарт, які з гонарам называе сябе яцвяжскім беларусам. Яцвяжскіх палякаў з беларускім пашпартам, на жаль, я не ведаю. Гіпатэтычная сустрэча з імі і абмеркаванне магчымых пераваг пальшчызны ці беларушчыны ў Яцвягіі ці яцвяжскасці ў беларушчыне або пальшчызне была б вельмі цікавая. Я так думаю. Я не думаю, аднак, што гэтае пытанне нейкім чынам кранала б прэзідэнта Лукашэнку. І не таму, што ён адчувае сябе да касцей беларусам. Ці рускім да апошняй кроплі крыві. Ён заяўляе, у рэшце рэшт, што ён — савецкі чалавек. А Бог ведае, што за такая нацыя! У любым выпадку, калі нават існавала, дык загубілася дзесьці на старонках Гісторыі, як і былыя яцвягі. Толькі ці зусім? Мой сябар, беларускі яцвяг, аднак, сцвярджае, што не. Ёсць жа прэзідэнт Лукашэнка, якія абвяшчае сябе саветам. Ды дзе там савету да яцвяга?! Па-першае, яцвяг мае шмат сяброў. А ў савета няма ані аднаго. Ну, хіба што маем на ўвазе такога Пуціна. Па-другое, яцвягі запоўнілі многія сотні старонак гістарычных летапісаў, саветы толькі некалькі дзясяткаў, і іхняя гісторыя запісана не чарнілам, а крывёю мільёнаў іх ахвяр. І сапраўды гэтак жа, як раптам яны выйшлі з-пад зямлі, так раптам зваліліся ў пякельныя глыбіні. Ці д'ябал накрыў іх сваім хвастом. Гэтая апошняя канцэпцыя здаецца мне быць найбольш верагоднай. Таму, што хопіць штурхнуць яго ў азадак, як той і выскачыць з-пад хваста... Ну, ніхто іншы, як толькі Аляксандр Лукашэнка. І калі ўжо выскачыць, зараз і атручвае беларускі народ прапагандысцкім серавадародам. Што за ўсе няшчасці, якія ўпалі на Беларусь, адказваюць Літва і Польшча, дзе абучалі беларускіх тэрарыстаў. Або гэта шкода родных халяўшчыкаў-дармаедаў, або дэмакратычнай апазіцыі падбухторанай прагнілым Захадам. Пры нагодзе натаўчэ дубінкамі сваіх паслугачоў каго трэба, але больш каго не трэба. У апошні час пенсіянераў і раздражненых Дэкрэтам № 3 жанчын. Загоніць ў турэмны смурод некалькі сотняў або некалькі тысяч беларусаў. А што там яму! Гэта ж не яго землякі — саветы! Саветаў абсалютна не пакрыўдзіў бы ён. І нават у іх абарону выйшаў бы пратэставаць на вуліцы Мінска. Я ўжо бачу вачыма ўяўлення, як дэманструе перад Прэзідэнцкім палацам, махаючы савецкім сцягам і падымаючы слушныя патрабаванні: «Свабода саветам! Няхай жыве савецкая Беларусь! Няхай жыве Савецкая Расея! Няхай жыву Я! І Пуцін. Але найбольш — Я!». Вось такая штука...

❖Міраслаў ГРЫКА



Сваімі вачыма

# У кіпцюрах бюракратыі

Перадвялікодны тыдзень сустрэў нас усіх халодным надвор'ем, а рэдакцыю — чарговымі фінансавымі клопатамі. Мабыць, у такіх святочных днях не выпадае пісаць пра грошы, бо ж джэнтльмены пра іх не гавораць, але ад студзеня да паловы красавіка журналісты «Нівы» працавалі проста за дзякуй і не атрымлівалі зарплат. Цяжка тады стрымаць і скрываць абурэнне. Проста Міністэрства ўнутраных спраў і адміністрацыі ўвяло такія працэдурныя змены, ад якіх меншасцям стала слаба, а ў выніку атрымаліся вымачаныя нервы і павышаны ціск. Гэта самыя малыя шкоды для іх людскіх арганізмаў. Вядома, што ўнутранай меркай паспяховасці адносін паміж дзяржавай і яе грамадзянамі з'яўляецца прыязная і спраўная адміністрацыя. Менавіта адміністрацыя, а не бюракратыя. Заложнікамі і ахвярамі бюракратычных працэдур засталіся арганізацыі і ўстановы нацыянальных меншасцей. Пра балаган пры размеркаванні фінансаў пісалася ўжо і гаварылася не раз, але як заўсёды пацярпелым у такой сітуацыі застаецца толькі меншасны бок. Са свайго боку яшчэ раз дзякую ўсяму ніўскаму калектыву і яго карэспандэнтам за зацінутыя зубы і працоўны прафесіяналізм. А друкарні аграмадная падзяка за выдаванне нас у крэдыт. Аднак пасля такога, на жаль, застаецца адчуванне прэзаных, а не развінутых крылаў. Ну, але годзе наракаць!

Сваёй дарогай цікавым быў бы эксперымент, каб дзеля звычайнай справядлівасці і салідарнасці цягам чатырох месяцаў усім міністэрскім чыноўнікам гэтага ведамства таксама не выплачваць заробкаў. Ой, што ж за шум учыніўся б! А ці ж у нас іншыя страўнікі і штодзённыя, жыццёвыя патрэбы? Успомніўся мне ў гэты момант стары анекдот пра селяніна, які хацеў свайго каня адвучыць есці. «Ужо амаль адвучыў яго есці, — апавядаў ён потым свайму суседу, — але ў апошні момант эксперыменту конь проста здох». Не дай Божа яшчэ некалькіх такіх эксперыментаў над нацменамі, то чуткі аб іхняй заўчаснай грамадска-культурнай смерці будуць праўдзівымі. Ну што ж, здаўна вядома, што сыты галоднаму не таварыш. Але калі гаварыць на поўным сур'ёзе, то такія сітуацыі падкопваюць давер грамадзян да сваёй дзяржавы. А ўсялякія сустрэчы, камісіі, упаўнаважаныя па справах меншасцей гэта звычайная выдзіманка, патрэбная толькі дзеля справаздачнасці перад айчыннымі і еўрапейскімі ўстановамі. А для ўсіх бакоў гэта звычайная страта часу. Значыць, усе мы разам удзельнічаем у нейкім тэатры абсурду. Прыхільнікі змоўніцкай тэорыі гісторыі ва ўзніклай сітуацыі бачаць нават мэтанакіраваныя дзеянні, мэта якіх — хутчэйшая асіміляцыя нацыянальных меншасцей. Дзе тут праўда, цяжка разабрацца.

Як не круці, але вдавочная шматгадовая польская палітыка перасоўвання грамадзянскай і грамадскай актыўнасці грамадства ў бок выключна партыйнапалітычных сістэмных блокаў прыносіць менавіта адмоўныя вынікі. Гэтую забетанаванасць, так шкодную філасофіі дэмакратычнай дзяржавы, на шчасце пачынае разумець і бачыць штораз больш людзей, асабліва ў кантэксце маючых адбыцца ў наступным годзе самаўрадавых выбараў. На фоне поўнага «партыйняцтва» сённяшніх самаўрадаў, узнікненне аўтэнтычных беспартыйных камітэтаў было б пэўнай надзеяй на змену племяннай выбарчай гонкі і непазбежнай пастаяннай узаемнай разні. Зараз па Беластоку ходзяць чуткі аб стварэнні грамадзянскай ініцыятывы, якая па ўсёй Польшчы будзе збіраць подпісы пад сеймавым праектам, забараняючым удзел партый у самаўрадавых выбарах. Паміж выбарчымі структурамі грамадзянскага камітэта і палітычнай партыі розніца на выбарчых гонках такая, як паміж роварам і ракетай. Таму, паводле некаторых юрыстаў, гэта прыклад неканстытуцыйнай няроўнасці ўсіх грамадзян. Баюся аднак, што згодным хорам варагуючыя штодзень палітычныя партыі будуць старацца не дапусціць нават да дыскусіі пра гэтую праблему ў агульнапольскай медыйнай прасторы. Пра сеймавую згоду гаварыць не прыходзіцца. Толькі «кукізаўцы», здаецца, маглі б спрыяць такой ідэі. Тады яе ініцыятарам застаюцца сацсеткі і так званы галосны, вулічны крытэрый. Пажывем, пабачым, ці словы гэтай ідэі стануць усё ж такі целам.

❖Яўген ВАПА

# Рукадзелле, якое супакойвае



**Юбілейны конкурс «X Агляд гафту і карункі Гайнаўскага павета — 2017» быў добрай нагодай для падвядзення вынікаў дзесяці аглядаў гафтаваных і карункавых рукадзельных работ, у якіх прыняло ўдзел звыш 180 рукадзельнікаў у асноўным з Гайнаўскага павета. Мерапрыемства арганізуе Гайнаўскі дом культуры ў сваіх памяшканнях і ў галерэі «Гайна», якая дзейнічала ў Музеі і асяродку беларускай культуры ў Гайнаўцы. Адкрыццё дзясятай юбілейнай выставы мастацкага рукадзелля, на якой прэзентуюцца вышываныя і карункавыя працы 37 аўтараў адбылося 24 сакавіка ў вялікім калідоры і галерэйнай зале ГДК. Гайнавяне мелі магчымасць паглядзець работы выкананы традыцыйнымі і сучаснымі рукадзельнымі тэхнікамі, на якіх сучасныя інспірацыі пераплятаюццаз традыцыйнымі ўзорамі і матывамі.**

Спатканне пачалося з выступу спявачак Зосі Філіпюк і Олі Волчык са Студыі эстраднай песні, якая дзейнічае пры ГДК. Юбілейную выставу адкрылі бургамістр Гайнаўкі Ежы Сірак, дырэктар ГДК Расціслаў Кунцэвіч і мастацкі кіраўнік ГДК Ядвіга Лях-Кучкін.

— На прэзентаванай выставе бачым цудоўныя вырабы майстроў рукадзелля. Іх аўтары ўклалі многа працы, каб выканаць гэтыя займальныя работы, — сказаў бургамістр Ежы Сірак. Адзначыў ён вялікую ролю працаўнікоў Гайнаўскага дома культуры ў захаванні і папулярызацыі рукадзелля, чаму выдатна спрыяюць ладжаныя імі ад дзесяці гадоў агляды работ майстроў гафту і карункі Гайнаўскага павета.

— З выкарыстаннем іголкі, ніткі і кручка, маючы вялікую цярплівасць, можна выканаць прыгожае рукадзелле, — заявіла мастацкі кіраўнік ГДК Ядвіга Лях-Кучкін.

— Хачу звярнуць увагу на новыя матывы і тэхнікі, якімі карыстаюцца нашы рукадзельніцы, хаця б выконваючы цудоўную біжутэрыю тэхнікай сутаж або вышываючы карціны, якія выглядаюць быццам маляваныя, — гаварыў дырэктар дома культуры Расціслаў Кунцэвіч, які разам з бургамістрам Ежым Сіракам і мастацкім кіраўніком ГДК Ядвігай Лях-Кучкін уручыў удзельнікам юбілейнага агляду памятныя дыпломы і падарункі.



Галіна Бірыцкая з Плянты каля сваіх ручнікоў, сурвэты і блузкі з беларускімі ўзорамі



Вышытыя крыжыкам «Сабор Васіля Блажэннага ў Маскве» Люцыны Зданоўскай і «Зімовы вечар» Валянціны Зялінка

На выставе прэзентуюцца перш за ўсё работы рукадзельніц. Але на агляд свае працы даслалі некалькі мужчын, у асноўным жыхары Павятовага асяродка сацыяльнай дапамогі ў Гайнаўцы.

— Агляд гафтаваных і карункавых прац пачалі мы арганізаваць у невялікай зале дома культуры, дзе зараз адбываюцца рэпетыцыі Студыі эстраднай песні. Спачатку на выставах прэзентаваліся абрусы, сурвэткі і іншыя вышываныя і карункавыя работы. Пасля сталі мы ладзіць выставы азагалоўленыя «Іголкай маляванае» ў Музеі і асяродку беларускай культуры ў Гайнаўцы. Урэшце выставы пераўтварыліся ў конкурс «Агляд гафту і карункі Гайнаўскага павета» і сёння адкрылі мы дзясятую ўжо юбілейную экспазіцыю мастацкага рукадзелля. Першыя гэтага тыпу мерапрыемствы і агляд «Іголкай маляванае» праводзіліся на бясконкурснай аснове. Год таму мы зноў вярнуліся да бясконкурснага агляду, — сказала старэйшая інструктар па справах мастацтва і рэкламы ГДК Анна Тарасюк, адказная за правядзенне «Агляду гафту і карункі Гайнаўскага павета».

— Падчас першых аглядаў гафтаваных і карункавых работ на выставе ў доме культуры прэзентавалася многа майго рукадзелля. Пазней я атрымлівала за свае працы ўзнагароды і займала першыя месцы. Добра, што існуе магчымасць паказаць сваё навейшае рукадзелле і параўнаць яго з працамі іншых рукадзельніц. Я часта прывозіла свае ручнікі, выкананыя з выкарыстаннем даўніх узораў, працы выкананыя толькі кручком або толькі вышываныя, вышытыя копіі ікон. Сваё рукадзелле я прадаю на беларускіх фэстах і пленэрных мерапрыемствах. Я асабліва люблю гэты агляд і ахвотна прывожу сюды свае работы, — сказала Галіна Бірыцкая з Плянты, пастаянная ўдзельніца гайнаўскіх аглядаў рукадзелля. — У гэтым годзе я выканала ручнік, копію ручніка зробленага ў 1927 годзе. Узорам і матывам на ручніку мінае якраз 90 гадоў. Прэзентую тут таксама блузку з беларускімі ўзорамі. Я люблю аднаўляць старадаўнія ўзоры, а таксама ствараць новыя матывы.

Падчас папярэдніх выстаў прэзентавалася рукадзелле іншых жыхарак Плянты — Лены Харкевіч, Малгажаты Краўчык і Люцыны Зданоўскай. Апошняя прыгожа крыжыкам вышыла выяву сабора Васіля Блажэннага ў Маскве.

— Калі я пачала жыць у Плянце, стала многа вышываць крыжыкам і выконваць іншае рукадзелле, — заявіла Люцына Зданоўская.

— Гафт і карунка гэта мастацкія тэхнікі рукадзелля, вядомыя ў нас ад многіх пакаленняў. Сурвэты і фіранкі, выкананыя кручком, вышываныя з выкарыстаннем мясцовых узораў ручнікі, абрусы і пакрывалы, а таксама вышываныя карціны сталі часткай матэрыяльнай культурнай спадчыны нашага рэгіёна. У мінулым былі яны неад'емнай часткай дэкору кожнага дома і сведчылі аб гусце і гаспадарнасці гаспадыні. Вельмі цешыць нас папулярнасць народнага рукадзелля нашых бабуль і мам, якое вяртаецца да нас і ўздзейнічае на сучасную дэкаратыўную моду. Агляд гафтаваных і карункавых прац стварае для мясцовых рукадзельнікаў магчымасць паказаць іх творы шырэйшай публіцы. Усё гэта мастацтва было выканана ўручную, што моцна павышае яго вартасць, — заявіла працаўніца ГДК Эмілія Карольчук, якая дапамагала Анне Тарасюк арганізаваць юбілейны агляд.

На выставе можна ўбачыць шыкарныя карункавыя працы, абрусы, сурвэты, фіранкі, традыцыйныя ручнікі з даўнімі вышыванымі і карункавымі матывамі і ручнікі з больш сучаснымі ўзорамі, біжутэрыю, выкананую сучаснымі тэхнікамі, вышываныя карціны з рэлігійнымі матывамі, краявідамі, кветкамі, нацюрмортам і нават копіі ікон, напрыклад «Апошняй вячэры». Удзельнікі мерапрыемства звярталі асаблівую ўвагу на прыгожыя ручнікі і блузку з беларускімі ўзорамі, даўжэй затрымліваліся каля сурвэт і абрусаў, а таксама каля выкананых кручком велікодных яек і ёлачных цацак. Маладыя асобы абавязкова затрымліваліся каля біжутэрыі. Апошнімі гадамі на аглядзе сваю біжутэрыю прэзентуе Анна Харытанюк.

— На выставе прэзентуюцца мае два ашыйнікі і брошкі, выкананыя тэхнікай сутаж. Усе мае працы непаўторныя і таму таксама асаблівыя. Падчас творчай працы я шукаю новае, а ў некаторых прапанавах абапіраюся на традыцыйныя ўзоры, — сказала Анна Харытанюк і дабавіла, што сучаснае рукадзелле патрабуе многа часу і таму не з'яўляецца яно прыбытковым, але дае многа задавальнення з канчатковага рэзультату працяглай работы.

— Я змоладу рабіла кручком і вышывала. Калі стала ў мяне больш свабоднага часу, вярнулася я да вяскоўага рукадзелля, якое супакойвае. Я трэці раз прынесла свае вырабы на агляд, на які запрасіла мяне Ніна Плева. На выставе відаць маю вялікую ікону «Апошняя вячэра», — гаварыла Лена Шчыгельская.

— Калі агляд праводзіўся на конкурснай аснове, я займала прызавыя месцы. За кожным разам прыношу новыя працы. Усе карункавыя работы выконваю ўручную, што займае многа часу, але дае магчымасць адарвацца ад штодзённых праблем. Выконваючы абрусы, фіранкі і іншае рукадзелле кручком сабе, сваім дзецям і знаёмым, карыстаюся рознымі праектамі, таксама традыцыйнымі, з мінулага, — гаварыла Яніна Плева, якая прынесла на выставу прыгожыя абрусы.

У ранейшым конкурсным аглядзе перамагала таксама Зінаіда Бакун, якая на гэты раз прынесла свае карункавыя работы. Абрус і іншыя работы з вялікай цярплівасцю выконвала Надзея Грыка. Ірэна Міхаляк у сваю чаргу запрэзентавала на выставе ручнік выкананы на падставе даўняй вышыўкі і даўняга карункавага афармлення. Іншыя ручнікі выканала яна з больш сучаснымі матывамі кветак, але з даўнім карункавым узорам.

Тэкст і фота **Аляксея МАРОЗА**




Цягам апошніх двух тыдняў у школьнай бібліятэцы ў Крынках гаварылася ў асноўным пра паездку ў музей. Дзеткі загадзя падрыхтавалі ўсё неабходнае, у тым ліку галінкі самшыту, каляровую паперу, толькі яйкі варылі апошнімі, каб не сапсаваліся. Думалі таксама над заказамі ў вядомым сакольскім кафэ-марожаным «Старая школа». Для большасці дзяцей гэта была першая паездка і ў музей, і ў сапраўдны рэстаран.

На той дзень усё было спланавана па старому, нават музыка ў згаданым кафэ-марожаным.

У рамках супрацоўніцтва крынскай бібліятэкі з Музеем Сакольскай зямлі атрымалі мы чарговае запрашэнне ад яго дырэктар Аляксандры Плюты. На гэты раз у праграмнове было наведанне навейшых выставак, між іншым, традыцыйнага, велікоднага стала. Нашых дзяцей — заўзятых мастакоў — манілі таксама тэматычныя майстар-класы па рукадзеллі. Паездка здзейснілася дзякуючы дапамозе дырэктар Гміннага асяродка культуры ў Крынках Альжбеты Чарэмхі. Яна заказала аўтобус і пагадзілася стаць суапекуном нашай грамадкі.

Маляваць яйкі захацеў і сталы супрацоўнік бібліятэкі ксёндз Пётр Васілеўскі. Вельмі цешыўся на гэтую экскурсію. На жаль, з'явіліся мацнейшыя, чым яго воля, службовыя перашкоды.

Настаў першы ў гэтым годзе сапраўды цёплы, вясенні дзень. Быццам па нашай просьбе. У дзвярах музея прывітала нас яго працаўніца Эдыта Глова. Са спадарыняй Эдытай мы ўжо добра знаёмыя. Разам выплаталі гродзенскія паясы ў нашай бібліятэцы. Цяпер распавядала яна нам пра велікодныя традыцыі.

— Ці вы чулі пра велікоднае калядаванне? — пытае дзяцей.

Вядома, у нас у бібліятэцы кожны дзень валокаюць, а яшчэ і лысага танцуюць, быццам на вясковай забаве. Былі мы добра падрыхтаваны і па іншых велікодных традыцыях. Праўду кажучы, самастойна можам пра іх распавядаць турыстам.

Як любіцелі кніжак не маглі мы прапусціць выстаўкі, прысвечанай кніжным закладкам. Спадарыні Альжбеце, калі пабачыла ўласнаручна абшытыя чырвонай ніткай кускі вокладак сшыткаў, прыгадалася дзяцінства. У сярэдзіне вокладкі знаходзіліся кускі паштовак альбо сухія кветкі. Калісь такія закладкі былі вельмі папулярнымі. Тканыя, быццам мініяцюрныя янаўскія пакрывалы, вышываныя ў форме ювелірных вырабаў, пры тым з розных куткоў свету. Турэцкія вельмі напаміналі ўзорыстыя, каляровыя дываны. Не менш каляровымі былі польскія, з матывамі лавіцкіх выцінанак. Найчасцей усё-такі старонкі кніжак закладалі прышытымі да іх каляровымі стужкамі. Найстарэйшыя ў калекцыі — дзевятнаццацівечныя — былі пазначаны рэлігійнай сімволікай: крыжамі, келіхамі, анёламі.

Усе 250 паказаных на выстаўцы закладак з'яўляюцца ўласнасцю школьнай бібліятэкаркі, любіцелькі кніжак Эвы Крыхняк з Саколкі.

Таксама добра запісаліся ў памяці ўдзельнікаў паездкі рукадзельныя майстар-класы. Красіць яйкі і аздабляць велікодныя вербачкі вучылі нас працаўніцы музея і Сакольскага дома культуры. Прысутная на занятках бургамістр Саколкі Эва Кулікоўская асабіста напіхала нашы кішэні шакаладнымі цукеркамі і дзякавала за прыбыццё. Салодкая і кліматычная атмасфера панавала таксама ў «Старой школе». Спецыяльна на наш заказ працаўнікі рэстарана ўключылі музыку міжваеннага перыяду.

А дзеткі ўжо не могуць дачакацца чарговай паездкі ў Музей Сакольскай зямлі.

Іаанна ЧАБАН



# Група «Solar Life»

**«SOLAR LIFE» — гэта група асоб з першых класаў Гайнаўскага белліцэя, якія прымаюць удзел у III Агульнапольскім конкурсе «Зрабі стаўку на Сонца». У гэтым годзе Шыман Краўчук, Бартэк Ламашкевіч, Патрык Кічкайла, Магда Стоцкая, Наталля Мусюк, Вікторыя Даманская ды Юлія Бяганская рыхтуюць даследчы праект.**

### КАНФЕРЭНЦЫЯ

«Мы знаёмімся з тэмай фотавальтаікі, — гаворыць Шыман, — і агульна з аднаўляльнымі крыніцамі энергіі. Фотавальтаіка — гэта від крыніцы аднаўляльнай энергіі, якая заключаецца ў вытворчасці электраэнергіі з сонечнага выпраменьвання.

Неўзабаве, бо ўжо 26 красавіка 2017 года а 17 гадзіне ў актавым зале нашай школы адбудзецца канферэнцыя. Упершыню мы прадставім нашы рэфераты. Потым пакажам усё, што нам удалося зрабіць за паўгода — нашы дасягненні, веды, эфекты нашай працы ў школе.

Мы хочам, каб на канферэнцыі паявіўся таксама чалавек, які з'яўляецца экспертам цэлай акцыі. Ён меў бы дапамагчы нам у правядзенні канферэнцыі, а таксама прыняў бы рашэнні наконт датацыі і коштаў, таму што мы гэтым не займаемся».

У час канферэнцыі кожны член групы «Solar Life» прадставіць рэферат на асобную тэму.

**Шыман:** Тэма эканомікі энергіі. Што зрабіць, каб зменшыць рахункі?

**Бартэк:** Кошт устаноўкі фотавальтаікі і яе рэнтабельнасць.

**Патрык:** Схема структуры і прынцыпы, па якіх працуюць фотавальтаічныя панэлі.

**Магда:** Выкід дыяксіда вугляроду ў традыцыйных электрастанцыях і параўнанне з іншымі электрастанцыямі.

**Наталля:** Што такое аднаўляльныя крыніцы энергіі? Як выглядае сітуацыя ў Польшчы?

**Вікторыя:** Віды фотавальтаічных сістэм. Цікавінкі.

**Юлія:** Якія памяшканні ў хаце паглынаюць найбольш энергіі і як гэта абмежаваць?

### ПАДРЫХТОЎКА

Як усе самі кажуць, на дарозе да канферэнцыі стаіць шмат праблем. Групу «Solar Life» складаюць вучні трох розных класаў. Некаторыя з іх жывуць далёка ад Гайнаўкі. Усё гэта перашкаджае маладым людзям сарганізавацца.

«Я з'яўляюся галавой «Solar Life», — працягвае Шыман. — Ужо нават нервова цяжка вытрымаць у нашай сітуацыі. Проста, калі адна асоба не працуе, дык марнуецца праца цэлай групы. Калі хтосьці нешта сапсуе, тады астатнія мусяць гэта папраўляць. І робім адну рэч два разы. Але, чым бліжэй да канферэнцыі, тым больш кансалідуемся і ўсё робім тэрмінова.

Цяжкая таксама і сама тэма нашага праекта. Я ўжо хвалююся, баюся нейкіх пытанняў. Баюся, што ў час канферэнцыі можа паявіцца такое пытанне, на якое мы не зможам адказаць. Вядома, што мы не ўсёведы. Можам спадзявацца, што нашы веды будуць падвергнуты цяжкім выпрабаванням. Я адчуваю сябе адказным за тое, што, калі хтосьці чагосьці не вывучыць, тады толькі мая віна. Думаю таксама, што кожны з нас баіцца кампраметацыі».

### ПАПЯРЭДНІ ВЫПУСК КОНКУРСУ

Год таму ў Агульнапольскім конкурсе «Зрабі стаўку на Сонца» ўдзельнічала іншая група белліцэістаў, а менавіта «Фантастычныя фільмавыя фізікі», якія перамаглі ў ім. Ці перамога стала матывацыяй для малодшых сяброў?

«Увогуле год таму назад наша школа ўпершыню прыняла ўдзел у конкурсе, — распавядае шэф групы «Solar Life». — «Фантастычныя фільмавыя фізікі» займаліся фільмавай часткай конкурсу, а мы — даследчыцкай. Па гэтай прычыне ды таму, што ў нас зусім іншая тэма працы, мы не звярталіся за дапамогай да «ФФФ». У іх праца была больш творчая, а ў нас — навуковая. Былі і такія праблемы, пра якія не было ў каго запытацца. Шмат рэчаў мы робім метадам проб і памылак. Шмат нам дапамаглі арганізатары конкурсу — узоры, калькулятары для лічэння. Але і так было цяжка».

### ПЛАНЫ НА БУДУЧЫНЮ

«Пасля канферэнцыі мы хочам зрабіць ранішнік для вучняў, — гаворыць Шыман. — Мы хацелі раней гэта зрабіць, але па прычыне матур ды гімназічных экзаменаў мы перанеслі яго на пазнейшы тэрмін.

Напэўна мы не шкадуем, што прынялі ўдзел у конкурсе «Зрабі стаўку на Сонца». Ён навучыў нас калектыўнай працы. Фактычна мы робім усё гэта, каб пашырыць свае веды. Думаем, што варта прыняць удзел у такім праекце. На пачатку нікому нічога не хочацца. Справа нават не ў тэме, якая не ўсіх мусіць цікавіць. Нягледзячы на ўсё, можна даведацца чагосьці, што потым у жыцці, мабыць, спатрэбіцца, хаця спосабы эканомікі, але перш за ўсё — калектыўная праца. Кожны з нас ведаў, на што рашаецца і колькі часу трэба гэтаму прысвяціць. Да гэтага ў нас была сама тэорыя — пісанне рапартаў, лічэнне, а цяпер, у другім этапе, больш практыкі — пашырэнне ў грамадстве ведаў аб аднаўляльных крыніцах энергіі».

Ужо цяпер запрашаем усіх зацікаўленых тэмай на канферэнцыю падрыхтаваную групай «Solar Life»!

Наталля ВАСЬКО
Гайнаўскі белліцэй

# Школа ў Орлі па-новаму

На сесіі арлянскай Гміннай рады 31 сакавіка г.г. радныя прынялі пастанову пра прыстасаванне сеткі школ да новага школьнага ладу.

Я, як радны, спытаў войта Пятра Сэльвесюка, ці ў выніку змены будзе ў школе настаўнікам горш ці лепш, ці будзе так, як было дагэтуль?..

Войт адказаў: «Учора, перад пасяджэннем камісіі, сустрэўся я са спадарыняй дырэктар Комплексу школ. Калі кранаць справу прыстасавання будынка, то не прадбачваюцца асаблівыя кошты, апрача рамонтных і бягучых, якія і так былі. Наконт уступнага аналізу ліку гадзін, то будуць скарачэнні настаўніцкіх штатаў, бо ў школе будзе на адзін год навучання менш — не будзе трэцяга класа гімназіі; застануцца ў наступным годзе толькі два класы. І ў выніку частка настаўнікаў напэўна будзе працаваць на няпоўную стаўку. Няпраўда тое, што сёння па радыё сказала міністр Залеўская, што настаўнікаў трэба будзе больш. Не ведаю, якім чынам яна гэта падлічыла, што будуць нейкія падбаўкі. Так, сёлета будзе падбаўка настаўнікам 40 злотаў брута. Калі гэта можна назваць падбаўкай, то я віншую спадарыні міністр добрага самаадчування і жадаю поспехаў у стварэнні новай рэчаіснасці».

Міхал МІНЦЭВІЧ

# ЖЫВОЕ СЛОВА

**У першай палове красавіка ў Варшаве і па ўсёй Польшчы працягваліся святкаванні XVII Сусветных дзён паэзіі, устаноўленых ЮНЕСКА. У Варшаве аўтарскія сустрэчы і канцэрты адбыліся, між іншым, у Доме літаратуры імя Адама Міцкевіча, Доме Палёніі і школах у Варшаве і падваршаўскіх гарадах. На некаторыя падзеі госці фестывалю падаваліся ў далейшыя падарожжы, напрыклад, у Сташаў. У Польшчы Сусветныя дні паэзіі ад пачатку арганізаваліся рэдакцыяй часопіса «Poezja dzisiaj» («Паэзія сёння»). З 2001 года — гэта адна з найбольшых і самых прэстыжных літаратурных імпрэз у свеце. Іх дэвізам з'яўляецца распаўсюджванне польскай паэзіі ў свеце і сусветнай у Польшчы, між іншым, шляхам літаратурных узнагарод для «нестандартных паэтаў» у выглядзе тамоў іх вершаў на польскай і англійскай мовах, узнагарод для перакладчыкаў. Аднымі з першых лаўрэатаў паэтычнай узнагароды ЮНЕСКА былі кс. Ян Твардоўскі і Эрнест Брыль. Запрашаюцца на мерапрыемствы аўтары з Еўропы і Азіі, выдаюцца іх кнігі, а пасля выдаюцца тутэйшыя аўтары на іншых мовах амаль усяго свету.**

— Імпрэзу, прысвечаную Сусветнаму дню паэзіі ЮНЭСКА, прakламавалі ў Парыжы ў 1999 годзе, — расказвае Аляксандр Наўроцкі, галоўны рухавік імпрэзы — паэт, эсэіст, перакладчык, галоўны рэдактар часопіса „Poezja dzisiaj". — Для таго, каб Слова стала шляхам да чалавека. Не дзелавое, чыноўніцкае, з інструкцыяй, слова загадаў, толькі тое нам найбліжэйшае, якое кожны чакае і ахвотна яго прымае.

Аляксандр Наўроцкі (1940 г. нар.) — выпускнік аддзялення польскай і венгерскай філалогіі і этнаграфіі Варшаўскага ўніверсітэта. З 1992 года з'яўляецца выдаўцом (уласнае кніжнае выдавецтва IBiS), а з 1998 г. — галоўным рэдактарам часопіса «Poezja dzisiaj». Выдае, галоўным чынам, сучасную літаратуру, польскую і замежную; у тым ліку былі выдадзены анталогіі грэцкай, іспанскай, венгерскай, фінскай, рускай, украінскай паэзіі. Ён таксама рэдактар-укладальнік і выдавец трохтомнага паэтычнага выдання «Польская паэзія — анталогія тысячагоддзя» (275 паэтаў: ад «Багародзіцы» да нашых дзён, 1800 стар.), сурэдактар двухмоўнай анталогіі польскай паэзіі, выдадзенай у Расіі ў серыі «Из века в век», якая ўключае паэтычныя анталогіі 14 славянскіх краін. «Паэзія сёння» выдала, між іншым, кнігу перакладаў беларускіх аўтараў «Wiatr od Niemna» — пераклады на польскую мову беларускіх аўтараў, пачынаючы з XIX стагоддзя да наймалодшага пакалення і «Размовы з паэзіяй» — вершы трынаццаці сучасных польскіх паэтаў» (у супрацоўніцтве з Домам-Музеем Адама Міцкевіча ў Навагрудку), сярод якіх былі Ян Леанчук і Міра Лукша з Беластока і Адам Сяменчык з Гарадка. У часопісе «Паэзія сёння» друкаваліся пераклады, між іншым, Віктара Шведа, Міхася Андрасюка, Лідзіі Маліноўскай, Яна Чыквіна, Міры Лукшы, Віктара Стахвюка і паэтаў з Беларусі. Пазалетась прэзентавалі двухмоўную анталогію «Масты» 11 польскіх паэтаў і 10 з Санкт-Пецярбурга, у перакладзе, між іншым, Міры Лукшы, летась масты грэцка-польскія, сёлета масты польска-гродзенскія (дзе перакладчыкам беларускіх твораў на польскую мову была Міра Лукша) і польска-разанскія. З 2001 года А. Наўроцкі з'яўляецца арганізатарам Міжнародных дзён паэзіі пад патранатам ЮНЕСКА, на якіх выдатным польскім паэтам уручаецца ўзнагарода «Лаўры ЮНЕСКА», а замежным — прэмія «Паэзіі сёння» за пераклады польскай паэзіі на іншыя мовы. Гэты паэтычны марафон доўжыцца 100 дзён — пачынаецца ў Варшаве, затым праходзіць па ўсёй краіне, канчаючыся ў Вільні.

— Кожны фестываль мае сваю ўласную аўру, характар. У гэтым годзе мы запрасілі 24 мастакоў з-за мяжы: паэтаў, перакладчыкаў польскай літаратуры, выдаўцоў, мастакоў — з Вільні, Беларусі, Расіі, Румыніі, Венгрыі, Славакіі, Германіі, Вялікабрытаніі, Італіі. Кожны з мастакоў слова падзяліўся з намі сваімі дасягненнямі, быў зацікаўлены нашымі, у той час як у «Паэзія сёння» былі надрукаваны іх вершы на польскай і роднай мовах. Мерапрыемствы праводзяцца ў Доме Палёніі, у Музеі літаратуры імя Адама Міцкевіча, у чытальнай зале імя Вацлава Баровага Факультэта паланістыкі Варшаўскага ўніверсітэта, у школах, у тым ліку прэстыжных — у Ліцэі імя Яраслава Дамброўскага, Гімназіі Стэфана Стажынскага, Ліцэі імя Станіслава Сташыца. У замежных міжнародных фестывалях, як правіла, удзельнічаюць толькі арганізатары і запрошаныя аўтары, усе ў адпаведным узросце. Нашы мерапрыемствы заўсёды ў большасці маладыя, таму што ў дадатак да спелых удзельнікаў прымае ўдзел у іх шмат маладых людзей, для якіх гэта вельмі важная падзея, а часам толькі адзіная сустрэча з жывой літаратурай, з жывымі аўтарамі. Здараюцца таксама школьныя экскурсіі на нашы Сусветныя дні паэзіі з глыбіні Польшчы ды па ініцыятыве вучняў. Фестываль з'яўляецца выдатным месцам для знаёмства аўтараў, прадстаўлення сваіх дасягненняў і наладжвання вельмі канкрэтных выдавецкіх, перакладчыцкіх і крытычных планаў. Не абмінаюцца таксама беларускія аўтары, у тым ліку і з Беласточчыны, а падтрымку ў арганізацыі мерапрыемстваў аказвае Культурны цэнтр Беларусі ў Варшаве.



фота Барбары Юркоўскай

■ Аляксандр Наўроцкі і Міра Лукша

Івэта Паплаўская:

— „Poezja dzisiaj" Наўроцкага — шматслойнае выданне аб шматлікіх дзеяннях з галіны супрацоўніцтва славянскай творчасці. А разам з развоем культурнага супрацоўніцтва паяўляюцца новыя ідэі, новыя гарызонты абмену досведам. Наша славянская тоеснасць запісана ў сіле нашых чаканняў, тузе па землях паходжання нашых славянскіх продкаў. Паэзія кранае філасофскія, экзістэнцыяльныя і ўніверсальныя праблемы. Інтэграцыя, адабрэнне, міжнародная талерантнасць была вядучай думкай усіх сустрэч.

Ганна Чахароўская, паэтэса, дырэктарка Гарадской публічнай бібліятэкі ў Яблонне:

— Наша бібліятэка 11 гадоў таму была названа ў гонар паэта, ксяндза Яна Твардоўскага. У гэтым годзе, 8 красавіка, у зале Гарадскога цэнтра культуры і спорту ў Яблонне адбыўся канцэрт паэзіі і музыкі з удзелам артыстаў з Беларусі. Мы пакарысталіся тым фактам, што да XVII Сусветнага дня паэзіі выйшла двухмоўная анталогія польска-беларускіх «Мастоў» і чарговы выпуск «Паэзіі сёння». Выбраныя вершы прачыталі паэтэсы з Гродзеншчыны — Ала Клемянок і Людміла Кебіч. Пабачылі мы таксама канцэрт двух мастакоў з Беларусі Вольгі Ладуцькі і Аляксандра Свірскага, маглі пазахапляцца беларускімі рэгіянальнымі касцюмамі і інструментамі.

Аляксандр Наўроцкі:

— У гэтым годзе к XVII Сусветнаму дню паэзіі мы апублікавалі сем кніг, без дзяржаўных субсідый: спецыяльны, двухмоўны выпуск «Паэзіі сёння» і маю прозу «Князь на срэбных нагах», дзве двухмоўныя анталогіі з серыі «Масты»: Варшава — Гродна і Варшава — Масква — Разань, дзве паэтычныя кнігі на чатырох мовах: Клаўдыі Яйсле з Дзюсельдорфа і кніжны прыз Сусветнага дня паэзіі ЮНЕСКА для Міры Лукшы з Беластока — польска-беларуская кніга «Радаслоў» з ілюстрацыямі маладога графіка з Беластока Радаслава Мацievіча. Прызамі былі таксама ўзнагароджаны прафесар Канстанцін Джэамбасу — пажылы перакладчык польскай літаратуры ў Румыніі «Залатым персценем» і намінацыяй на прэмію міністра культуры і нацыянальнай спадчыны ды Міра Лукша — пераможца XVII Сусветных дзён паэзіі.

Міра Лукша — лаўрэатка Сусветнага дня паэзіі ЮНЕСКА 2017 года:

— Я пішу на дзвюх мовах першага Еўрапейскага Саюза — саюза Польскага Каралеўства і Вялікага Княства Літоўскага — на польскай і беларускай. Беларуская мова з'яўляецца мовай, на якой напісаны былі Літоўскія Статуты, першая еўрапейская канстытуцыя, якая, праз Тадэвуша Касцюшку, стала ўзорам для амерыканскай. Людзі памежжа, паэты памежжа — жывыя гарачыя вароты зноў ажыўляюць слова. Перакладаю таксама тэксты сваіх калег на розныя мовы — слова яднае.

**(лук)**



фота Міры ЛУКШЫ

## Святочныя разважанні

Вернікі праваслаўнай царквы лічаць Вялікдзень найважнейшым святам. Сёлета гэты жыццярадасны дзень адзначаць будзем разам з каталікамі. Жывем у адной дзяржаве, якая называецца Рэччу Паспалітай у сям'ітрыццацівасьмімілённага народа. І адны, і другія прытрымліваемся правілаў «Дзесяці запаведзей», усе мы лічымся хрысціянскім народам. А рысай хрысціяніна, як вядома, з'яўляецца «вера, надзея і любоў».

Сучасная рэчаіснасць не прадвяшчае станоўчых спадзяванняў, што апошні тыдзень Вялікага посту ў перадвелікодны час, як і само свята правядзем пры супольным застоллі. Сведчаць пра гэта штодзённыя інфармацыі масмедыяў. Тое што творыцца зараз у Сейме, гэта сапраўднае кабарэ. Прыклад, вотум недаверу для каманды прэм'ер-міністр Бэаты Шыдла, прад'яўленае Грамадзянскай платформай у пятніцу 7 красавіка. Не стану каментаваць прамоў лідара апазіцыі Гжэгажа Схетыны, як і ўпраўляючых — Бэаты Шыдла ці лідара ПіС Яраслава Качынскага. На маю думку адны, як і другія адно абкідваліся ўзаемна абвінавачваннямі. Не хапіла дыскусіі над хвалюючымі грамадства праблемамі.

Віноўнікамі сучаснай шэрай рэчаіснасці лічу як Грамадзянскую платформу, так і ПіС. Першых за гэта, што паставіліся задам да суверэна, не слухалі народа і прайгралі выбары, а ПіС за гэта, што змаліла выбаршчыкаў абяцаннямі і дапускаецца дэструкцыі правапарадку ў дэмакратычнай дзяржаве. Як можна затым зразумець словы Бэаты Шыдла, якая ў экспазе 25 кастрычніка 2015 года так абвяшчала ў Сейме: «Пакора, праца, памяркоўнасць, разважлівасць у дзеянні і адказнасць. А перш за ўсё слухаць грамадзян. Гэта прынцыпы, якімі будзем кіравацца. Канец з нахабствам і ганарыстасцю». А што маем? Улада «разбіваецца» службовымі машынамі ў дарожных аварыях. Спадарыня прэм'ер падаецца ва ўік-энды вайсковым верталётам. А колькі гэта каштуе? Дзясяткі мільёнаў злотых вылятае з дзяржаўнага бюджэту, затым і нашай, падаткаплацельшчыкаў, кішэні. І апошняя справа. Пагарда ўпраўляючай, прывілеяванай касты да людзей «другога сорту», якіх абзываюць зладзеямі, прадаўшчыкамі ды камуністамі. Стаўлю затым пытанне пісаўскім аратарам у перадсвяточны час: дзе ваша пакорлівасць, памяркоўнасць і разважлівасць? На маю думку, моліцеся перад фігурай, а д'ябла маеце за шкурай. Словы народнай мудрасці гавораць самі за сябе.

**Уладзімір СІДАРУК**

## СПАЧУВАННІ

**Смуткуем разам з Васілём Петручуком у горы смерці Ягонай жонкі Клаўдзіі і выказваем словы шчырага спачування і падтрымкі**

**сябры з Нівы**



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)

www.e-zorka.pl

# зорка

для дзяцей і моладзі


# Гран-пры заваявалі наймалодшыя!

З прызнаннем глядзім на тых, хто з поспехам займаецца школьным тэатрам і даходзіць з ім да асяроддзя, нашых дзетак, моладзі, бацькоў і настаўнікаў. Выступленні важныя таксама для саміх акцёраў і настаўнікаў. Кожны вучань, які перажыў на сцэне прыгожыя і кранальныя моманты, будзе з сімпатыяй думаць пра беларускую мову. Важна таксама, каб у час аглядаў была публіка. На жаль, у нас практыка такая: выступіў і хутчэй дамоў! Таму варта саставіць такі графік, каб на пачатку выступалі найлепшыя, то-бок лаўрэаты папярэдніх гадоў, ад якіх можна шмат чаму навучыцца...

Усе нашы аматары школьнага тэатра павінны пабачыць спектакль «Каток — залаты лабок», які прадставіў гурт «Лянок» з Непублічнага прадшколля № 1 імя св. Дзіцяці Гаўрыіла ў Бельску-Падляшскім. Гэта было жывое захапленне! У выкананні дзяцей звычайная казка набыла шматгранны змест і натхняльны пераказ.



фота Ганны Кандрацюк

Дзеткі з бельскай «Тройкі»

Усё дзякуючы граматнасці (цудоўнае вымаўленне вядучых), бліскучай акцёрскай ігры, густоўнаму сцэнічнаму афармленню, жывой музыцы і танцам саміх дзетак. Журы, у саставе Яніна Плютовіч, Міра Лукша і Васіль Сегень, справядліва прысудзіла ім Гран-пры.

Прыгожа на сцэне паказаўся Тэатральны калектыў Бельскага дома культуры з «Дзённікам Веры» і гімназісты з Орлі са «Светлай нядзеляй». Яны атрымалі першыя месцы. Другія месцы заваявалі Тэатральны калектыў Комплексу школ з ДНБМ у Бельску-Падляшскім за пастаноўку «Кот у ботах», калектывы з Нарвы з жартоўнай пастаноўкай «Прыехаў Міхалка» ды Рыбал з казкай «Сабака і воўк». На трэцім месцы апынуліся спектаклі «Тры парасяткі» з Орлі, «Як нос з усімі пасварыўся» з Бабік, «Жабкі і чарапашкі» з бельскай «тройкі» ды «Сучасныя вячоркі» Тэатральнага калектыву Гайнаўскага дома культуры. Вылучэнні ў конкурсе атрымалі дзве пастаноўкі з бельскай «тройкі»: «Святое Вялічка — з красным яечкам» і «Вяселле — дзявочнік». Апошнія спектаклі атрымалі сімвалічную ўзнагароду, бо яны ўжо вядомы на школьнай беларускай тэатральнай сцэне. Проста, на агляд пажадана прыязджаць з новым рэпертуарам. І пажадана, каб Гран-пры ішло ў рукі не самых маленькіх а найстарэйшых, бо тады відаць развіццё.

**(гак)**

# Спелае сцэнічнае слова

Ужо ў 38 раз у Беларускім таварыстве выступілі змагары за найлепш выказанае і паказанае слова на сцэне. 7 красавіка сабраліся ліцэісты са сваімі настаўнікамі, каб па-мастацку прадставіць паэтычныя і празатарскія творы беларускіх аўтараў ды паказаць п'есу. Пастаноўка была адна — з Гайнаўскага белліцэя, напісаная настаўнікам Янкам Карчэўскім. Гэтую выдатную сучасную камедыю «Кастынг» бліскуча прадставілі ліцэісты, сярод якіх камісія адзначыла Дамініку Пуц і Яцка Дружбу, хаця кожны акцёр быў варты ўзнагароды, між іншым



«Кастынг» з Гайнаўскага белліцэя



Гандзя Нестарук

Фота Міры Лукшы

Гандзя Нестарук, якая таксама выдатна выступіла з вершам і прозай; спадзяюся, што расце нам новая «Гандзя Бяліцкая»! Варты адзнакі таксама настаўнікі, якія рыхтавалі выступоўцаў — Анна Бжазоўская і Яўгенія Таранта з Бельскага беліцэя і гайнаўяне Ян Карчэўскі і Яланта Грыгарук, ды Альжбета Фіёнік, якая вяла Паўла Кучынскага з III Агульнаадукацыйнага ліцэя ў Беластоку. Творы — класіку і найбольш сучасныя, улічваючы аўтараў з Беласточчыны, такіх як Андрэй Сцепанюк, Юрка Генюш, Міра Лукша — найцікавей прадставілі — на першым месцы: Наталля Васько, Дар'я Маліш і Магдаліна Маліш, на II месцы: Анна Бляяўская, Магдаліна Магрук і Рыгор Таранта, на III месцы: Анна Нестарук ды Вікторыя Гарноўская. Вылучаны Павел Кучынскі, Юлія Пракапюк і Юлія Бяганская.

**(лук)**

*Наталля Арсеннева*

## Красавік

Неба сіняе, сіняе, сіняе...  
ані межаў у ім, ані дна.  
На зямлі ж прыгажуняй-княгіняю  
пазірае мне ў вочы вясна.  
Лазнякі срэбным пухам акрыліся,  
вецер пыл па-над імі мяце,  
тут — пралескі ў раўку затаіліся,  
сірацінкай фіялка цвіце,  
там — жаўцеюць вяночкі вясновыя  
красак нейкіх нязнаных яшчэ,  
там — ізноў, залатыя ліловыя...  
з іх вясна дываны свае тчэ.

# УВАГА КОНКУРС! № 17-17

**Ён у лузе, ён у полі,**  
**Зранку лётае на волі.**  
**Звонка песні распявае,**  
**Імі дзетак ён вітае.**  
**Ж.......**

**(У. Мацвеенка)**

**Разгадайце загадку, адказы дашліце ў „Зорку" да 7 мая 2017 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.**

# Загадкі з роднай хаткі

**Адказ на загадку № 13-17: пралескі. Узнагароды, кніжкі Міры Лукшы «Гражынка і Грак» з аўтографам, выйгралі Іаанна Пяткевіч, Габрыеля Крупіч з НШ свсв. Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку, Магда Люнда з КШ № 1 у Гайнаўцы. Віншуем!**

# НАВУКІ САЛАВЕЙКІ
## (гуцульская казка)

Адзін чалавек злавіў салавейку і хоча яго з'есці.

Але птушачка кажа:

— Не рабі гэтага, ты ж мной не наясіся. Лепш выпусці мяне на волю, а я ў падзяцы навучу цябе трох рэчаў, якія будуць табе служыць у жыцці.

— Ну, гавары свае навукі, — кажа чалавек, — як спадабаюцца, тады выпушчу цябе на волю.

Ды салавейка кажа:

— Ніколі не еш таго, чаго не гадзіцца есці. Ніколі не шкадуй таго, што ўжо не вернецца. Ніколі не вер у неверагодныя, прыдуманыя рэчы.

Парады моцна ўразілі чалавека і ён выпусціў салавейку. А салавейка хацеў даведацца, ці яго навукі не пайшлі ў лес. Узляцеў высока і кажа:

— О-о-о! Ты зрабіў глупства, чалавеча, і мяне адпусціў! Каб ты ведаў, які скарб я маю ў сярэдзіне, ты б ніколі не выпусціў мяне з рук. У маёй сярэдзіне вялікая і каштоўная пярліна. Калі б ты яе дастаў, адразу б узбагацеў.

Пачуў гэта чалавек, насупіў бровы і просіць салавейку, каб вярнуўся.

Тады салавей кажа:

— Цяпер я зразумеў, што ты дурань. Усе мае навукі пайшлі з дымам. Ты шкадуеш таго, чаго ўжо нельга вярнуць. І паверыў у мае дурныя байкі. Глянь — я ж малюсенькі! Дзе ж у маёй сярэдзіне можа хавацца вялікая пярліна? Ці я выглядаю як перламутравы малюск? Хто чуў, каб птушка пярліны нараджала? Ой, шкада мне цябе! Шкада!

Салавейка ўзмахнуў крылечкамі ды паляцеў сабе ў неба.

*(Пераклала з украінскай мовы* ***Ганна Кандрацюк****)*




Фота Ганны КАНДРАЦЮК

# Чаму паэт піша вершы?



Фота Ганны КАНДРАЦЮК

У мой клас завітаў дырэктар суседняга ліцэя Андрэй Сцепанюк. Аднак не ў якасці настаўніка, але паэта. Мы прывіталі яго дэкламацыяй вершаў. Андрэй Сцепанюк заахвочваў нас пісаць і расказаў, чаму ён піша вершы.

— Каб нешта напісаць, трэба гэтага вельмі хацець, — сказаў.

Супольна мы склалі кароценькі верш пра вясну. Спадар Сцепанюк прызнаўся, што для яго лягчэй напісаць белы верш, чым рыфмаванку. Галоўныя тэмы — каханне, смерць, праміканне. Вершаў нельга пісаць пад прымусам, а толькі тады, калі прыходзіць «вена», або ў галаве застрагне думка. Пісанне вершаў гэта выказванне сваіх думак, мар, эмоцый. Наш госць сказаў, што ў маладосці, калі яго сустракалі сумныя ці непрыемныя рэчы, ён хацеў пераліць іх на паперу, каб стала лягчэй. Ён дадаў, што не піша пастаянна і ад выхаду зборніка «Распісаны квадрат» ён яшчэ нічога не напісаў. Згаданы зборнік «даспяваў» 50 гадоў. Паэт сказаў, што, мабыць, на другі прыйдзецца чакаць яшчэ 50 гадоў.



*Аляксандра Зінкевіч*

Андрэй Сцепанюк прачытаў нам некалькі сваіх вершаў. Мне найбольш спадабаўся верш «Вера», які, пэўна, многія ведаюць. І ўразіла, калі паэт сказаў, што часам ён сам не ведае пра што напісаў верш і сябры яму гавораць, як яны гэта зразумелі і ўспрынялі. Заўвагі і інтэрпрэтацыя чытачоў здзіўляюць часам паэта. Проста, кожны інакш успрымае паэзію і цяжка сказаць, што меў у галаве аўтар, бо і ён сам мог гэтага не ведаць. Заахвочваю ўсіх чытаць вершы спадара Андрэя Сцепанюка!

**Аляксандра Зінкевіч**,

*III кл. Гімназіі з ДНБМ імя Ярослава Кастыцэвіча ў Бельску-Падляшскім*

**Аляксандра ЛАШЧЭЎСКАЯ**

Гімназія свсв. Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку

## Лес

Птушкі, звяры і дрэвы
гавораць ужо гадзіну.
Яны любяць людскі спеў,
ды людзей няма ў лесе.
Яны хочуць зрабіць конкурс
на найлепшага спевака.
Вестка абабегла ўвесь свет
і ўсе людзі бягуць у лес.
І шукаюць, блудзяць, плачуць,
ды нічога яшчэ не бачаць.
Усе гавораць:
Дзе музыка?
Дзе паляна?
Такі конкурс!
Гэта вялікая справа!
Музыка ў лесе будзе!
Заспяваюць таксама людзі!

# Польска-беларуская крыжаванка № 17-17

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 13-17:**

Мёд, куніца, гусі, бусел, мост, Ала, сайт, Ніл, як, цёця, сказ, Мілан. Маг, маяк, бойка, густ, куст, усё, Ніл, ці, анёл, цяпліца, Алан.

Узнагароды, аўтаручкі, выйгралі **Іаанна Місяюк, Магдалена Якубюк** з КШ з ДНБМ № 3 у Бельску-Падляшскім, **Марыя Урбановіч, Марта Петручук, Мая Тапалянская** з Нарвы, **Кацпар Міцейка, Анна Іванюк** з НШ свсв. Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку, **Аліцыя Костра, Паўліна Лянкевіч** з Шудзялава. Віншуем!










***Вера* РУСІНОВІЧ**
*Нарва*

# Молітва

1.

*Люблю хворобу што раніт сэрцэ*
*Бо сам Господзь будзіт дзісь мэнэ*
*Вуон кажэ штобы проснулась і просіла*
*словом «Помілуй Господзі» мэнэ*
*Так часто говорыла*
*Як сэрцэ стукае і б'е*
*Словом Господа просіла*
*Днём і ночу ціхенько ў уме*
*І губы промоўляют усэ*
*Я думаю об Богу*
*Прырода дыхае об Ім*
*І бачу як руніт молітва*
*Над полямі родное землі*
*Помілуй — то Слово святое*
*Якое просіт у целові душа*
*Вона выпускае слова на вецер*
*Які нэсэ іх над облака*
*Там дэ пуховые сьнежынкі*
*Я бачу днём угорэ*
*Молітва з верою по іх до Бога*
*Хучэй, хучэй дойдэ.*
*Дзісь молітва «Господзі помілуй»*
*Хуткім кроком уходзіт до душы*
*Слово пукае і стукае ў сэрцэ*
*Як госьць хочэ туды войці*
*Очы дзіўляццэ на прыроду*
*Бачу як лісточкі шэлестят*
*Там высоко на чубові дэрва*
*Словы сіеты говорат*
*Іх Господзь тожэ чуе*
*Сэрцэ говорыт дзісь для мэнэ*
*Спокуй цішына проходзіт*
*У прыродзі родной на Земле*
*І зверына прамоўляе дыхае вона*
*Сіэты словы: «Господзі помілуй»*
*З ціхім ветром прынэсла*
*Дыхае ўся прырода*
*Якой Бог зэмлю пробудзіў*
*Кажэ сіеты словы запахом своім*
*Тут познала бліжэй Бога*
*У прыродзі Вуон жывэ*
*Дух Святый проходзіт*
*Усюды на Зэмле*
*Цвітут слова як кветкі*
*Пахнут нааколо ўсім*
*Станэ так лёгко і спокойно*
*ў сэрцы і душы*
*Бо дзісь Господзь у словах*
*Сіэтых госьціт, слухае мэнэ*
*Так лёгко жыці з молітвой*
*днём ночу — усэ*

2.

*Прэд Іконою Богородзіцы*
*Стану я на колена*
*Поклон прынэсу*
*І ціху молітву з сэрца, душы скажу.*
*Вэлікі сьлёзы як буб коцяццэ*
*по тварові моём*
*Мыют душу як дождж*
*Пасеяное на ніве зерно*
*Ты Богородзіцэ*
*Дай нам здороўя;*
*У Твоём доме жывэ,*
*Як кветка усэ пахнэ вонэ.*
*Для нас нэшчасных у хворобі бедзе*
*Помілуй нас, Богородзіцэ,*
*Тэбэ мы просім кругом на Зэмле.*
*Так лёгко дзівіцісь на Ікону Твою*
*З ёй прыплыве радосьць і шчасьце*
*Тэплота што грэе сэрэдзіну мою*
*Сьвятое міро — лечыт раны пробіты*
*Богородзіцэ Дзево, у Тэбэ жывэ*
*Сьвятая вода.*
*Дай нам чысту дорогу*
*По которуй плывэ вона.*
*Такімі словамі просіт Тэбэ,*
*Богородзіцэ, наша душа.*
*Вона шукае прытулку*
*І кланяеццэ ў целе прэд Тобой.*
*Просіт і дзякуе як Мацеры своёй.*

3.

*Ты моя маці Царыца Небесная*
*Я маю Ікону Твою*
*З Ее плывэ радосьць і шчасьце*
*Слова сіеты прэд Тобою я говору*
*Як гляну я на Ікону то бачу*
*Дужо сьвятой тэплоты*
*І чую як Ты покрываеш усе людзі*
*Дзісь на зэмлі.*
*Нэшчасьце і горэ бывае*
*Слюоз дужо тэчэ з очэй,*
*Бо людзі гінут як пшчолы од зімы*
*Тут на зэмлі.*
*Сьвэчу прэд Іконой поставлю ў цішы*
*Кнот огнём запалю*
*Тобі, Маці, Царыца, поклон прынэсу*
*У словах скажу я молітву*
*Ты ведаеш што я дзісяй хочу*
*У Тэбэ просіці спокою ў нас на зэмлі*
*Бо чую як кроў выплывае з жыл*
*нэшчасных людзі*
*Воны хрысьцяццэ усэ ждут спокою*
*Од Тэбэ на Зэмлі*
*І верат у Бога Ісусa Хрыста*
*Которы з Тобою жывэ на Іконе*
*Дзівіццэ*
*На ўсіх і мэнэ*
*До Его прыводзіт вера*
*Хрысьціян на Земле.*

***Галіна* БІРЫЦКАЯ**
*Плянта*

# Іду праз жыццё

*Іду крок за крокам праз жыццё.*
*Добры Бог за руку трымае*
*І каб не ўпала на дарозе,*
*Усё асцерагае.*

*Калі трымаеш за плуг і арэш,*
*Не аглядайся за сябе.*
*Трэба старацца наперад ісці,*
*Бо ззаду пакінуць цябе.*

*Кепскага прыкладу не бяры з нікога,*
*Не ідзі сцежкаю чужога,*
*А пратоптвай сваю*
*І пакідай яе за сабою.*

*Удзячным, здаецца, добра быць.*
*Але ўдзячнасць хутка старэе.*
*Да пляча чыёгась прытуліся,*
*Бо лёс пяску ў вочы навее.*

# Палатняны ручнік

*Мая мама, калі жыла,*
*Пасаг мне шыкавала.*
*Палатно выткаўшы на кроснах*
*У зволькі звівала.*

*Паклаўшы ў куфэрак,*
*Каб запоўніць як хутчэй.*
*І з уцехай паглядала,*
*Як дачка яе расце.*

*Мама, Тваёй работы*
*Я не змарнавала.*
*Летам палатно рассцілала на траву,*
*Каб сонца сваім праменнем выбяляла.*

*Калі вышывала я ручнік,*
*Ніткі слала адна пры адной.*
*Многа сэрца ў гэта ўкладала,*
*Каб вышыць як найпрыгажэй.*

*Каласы жыта як бы вецер калыхаў,*
*Валошкі ў жыце сінімі вачыма зіхацелі.*
*Куколь да сонца ўсміхаўся,*
*Макі тварыкамі сваімі чырванелі.*

# Лён

*Тата сеяў лён, мама палола, даглядала,*
*Каб вырас і паспеў.*
*Вырваўшы, у кучкі ўстаўляла.*

*Цешылася мама, што ўрадзіў лянок:*
*Будзе кашуля, ручнік ды мяшок.*
*І работы будзе тады*
*На асенніяя доўгія вечары.*

*Вялікую кудзелю да прасніцы вязала.*
*У доўгія піліпаўскія вечары ўсё прала і прала.*
*У калаўротку калясо скрыпела.*
*Бачыла, як часта пры калаўротку,*
*перамучаная, засынала.*

*Газавая лямпа кідала скупы круг святла.*
*Ты прала хутчэй і хутчэй.*
*Старалася, каб кончыць да свята Калядаў,*
*Каб калаўротак схаваць*
*і хату на свята прыбраць.*

# Зноў прайшоў год

*Зноў прайшоў год.*
*Быццам птушка, ён праляцеў.*
*Жыццё ўцякае кудысь.*
*Аб гэтым знае сам Бог.*

*Я тут жыву адна,*
*Сярод людзей знаёмых.*
*Аглядаюся на свайго лёсу каляіны,*
*Ці ў іх перашкоды якой няма.*

*Здаецца, што неба без зор*
*А ночы доўгія.*
*У які бок жыцця не гляну,*
*Кругом, здаецца,*
*пустыя жыццёвыя паляны.*

*Не раз слёзы сваім жыццём я выціраю.*
*Чакаю ўсё лепшага.*
*Добрае не збываецца.*
*Тое, што было добрае,*
*часта ўспамінаецца.*

*Думаю пра тое, што было даўно.*
*Мару ўсё пра адно.*
*Каб Бог Сваімі грудзьмі асланіў.*
*І каб год наступны*
*ў здароўі і шчасці быў.*


Алені за Слояй

# Каля Кнышэвіч

У Саколцы быў даўнавата, па сутнасці каля вакзала, бо ў цэнтры горада яшчэ даўней. І той сакольскі вакзал стаіць непарушна — значыць заўважна не парушаецца чалавечымі рукамі. Хаця нейкі прагрэс ёсць — у чакальнай зале няма ўжо насценнай „народнай” творчасці, яна замалявана. І не працуе ўжо білетная каса, на акенцы якой важна фігуруе інфармацыя на польскай і англійскай мовах пра продаж білетаў, пад якой картачка, ужо толькі на польскай мове, што продаж білетаў у поездзе. Патэнцыйнаму іншаземцу ўсё ж такі неабходна ведаць мясцовую панскую мову.

Гадоў таму шмат, бадай не менш дзесяці, непадалёк мажнога чыгуначнага вакзальнага будынка быў невялічкі барак аўтобуснага вакзала, у якім таксама сталі паступова з'яўляцца інфармацыі пра абмежаванні продажу білетаў... А цяпер па тым аўтобусным бараку і ўсяляκі след прастыў.

Ды і будынак чыгуначнага вакзала з наваколлем крыху нагадвае археалагічную стаянку. Са сцен будынка паступова абвальваюцца пліткі тынку, раскрываючы ранейшыя пласты сцен. Дзеля засцярогі падарожнікаў ад трымаючайся сцен небяспекі да дзвярэй дачэплены стрэшкі... Асфальтавыя дарожкі, на якіх даўней тоўпіліся аўтобусы, таксама адкрываюць свае больш глыбінныя пласты — пакуль што брук. А побач чарапкі ад тратуарных плітак, кожны чарапок выгадна гняздуе ў бяспечнай зямельцы, паступова ператвараючыся ў прах, як і ўсё іншае...

Заміж аўтобуснага вакзала цяпер у Саколцы толькі адна паветачка, а заміж натоўпу народу, як было яшчэ дваццаць гадоў таму, толькі вельмі адзінокія пасажыры. У аўтобус, што калясціць у Крушыняны, сядае двое: жанчына злезе ў найбліжэйшай Каменцы. А я высаджваюся на прыпынку Кнышэвічы, жадаючы шафёру кампаніі нейкіх пасажыраў.

Прыпынак Кнышэвічы ад самой вёскі такой жа назвы далекавата. Наваколле гэтага прыпынку цяпер складаюць аграмадныя пасадкі фруктовых кусцікаў, бадай вельмі цяпер у нас папулярных высокіх буякоў (borówki amerykańskiej). Расліны пасаджаны ў акуратных радочках, над якімі планкі дзеля пазнейшага падцягвання кустоў уверх. Гэта насоўвае асацыяцыю з міфалагічным Пракрустам, які хацеў навесці „роўнасць” сярод чалавечага роду, расцягваючы або скарачаючы „ненарматыўных” індывідаў. А цяпер падобным метадам карыстаюцца садоўнікі і жывёлаводы, падцягваючы і падвязваючы свае фаўну і флору, каб яны ўраджайнілі з усіх сваіх сіл, як колішнія галернікі...

Плантацыя акуратна абгароджана металічнай сеткай, на якой дошчачка з інфармацыяй пра гадавальнік аленяў. На жвіроўцы, што адыходзіць ад сакольска-крынскай асфальтоўкі ў напрамку Кнышэвіч, джып гадавальніка. Пакуль аленяў не відаць, але неўзабаве паказваюцца — у чарговай, за буякамі, агароджы. Неўзабаве згаданая машына калясціць па той жа дарозе, па якой шагаю і я, спыняецца побач мяне і вадзіцелька, якой позірк наводзіць меркаванне, што яна гаспадыняй усяго гэтага гадавальніцтва, ветліва пытае куды я напраўляюся і прапануе ў Кнышэвічы падвезці. Аднак мне цікава пахадзіць каб, магчыма, больш пабачыць. Машына едзе далей, дзе чарговая загарада аленяў і, праверыўшы, што ўсё ў парадку, вяртаецца назад.

А я пачынаю крышку шкадаваць, што не карыстаўся прапановай, бо жвіроўка тая, загароджаная з абодвух бакоў сеткай, становіцца ўсё больш гразкай, і ўсё больш вузкай, і ўсё менш жвіровай, толькі больш грунтавой. Час ад часу трэба саступаць на менш размоклую абочыну, а калі абочына абсаджана шпалерамі густых кустоў, то прыходзіцца ступаць па прасяклай у грунт вадзе, быццам Ісусу па Галілейскім моры...

Дабіраюся да расходных дарог, з якіх адна ў напрамку далейшых Сухініч, але мне ўжо думка абы бліжэй, абы выбрацца з тае абгароджанае балоцістае грунтоўкі. Неўзабаве паказваюцца забудовы дзвюх вёсак, Слоі і Кнышэвіч. І на дарозе паяўляецца жвір, яна становіцца прафіляваным, акругленым у вертыкальным разрэзе кволым насыпам. І крышку менш на такой дарозе вады. Але яе ўсё ж такі шмат. Бо ў вады кашэчы характар — ёй няспешна шчыраваць па вызначаных чалавекам дарогах. Яна лянiва трымаецца свайго месца, быццам кот сонечнага падаконніка...


На кнышэвіцкай гары

А таго сонца што кот наплакаў, усё цярушыць далікатны дожджык. Час ад часу неба святлее, уступае нейкая надзея на праясненне, але неўзабаве гарызонт падае чарговую хмарку і чарговую порцыю вадзічкі веснавой зямельцы; і прынагодна жвіроўкам-грунтоўкам. Краявід Сакольшчыны сапраўды веснавы. Вярхі ўзгоркаў абсаджаны маладняком, быццам ярынoй. Дзе-нідзе гэтыя лясы працярэблены і на выцерабах ляжаць маладыя елачкі, якія ў іншы час маглі б упрыгожыць калядны настрой, асабліва ж ялінавым араматам. З пянька ссечанай бярозы белая пена гаючага бярозавага соку вяртаецца да маці-зямелькі... Рачулка Слоя, якая тут перакапана ў меліярацыйныя роў, адзобленая жоўтай лотацццю...

Кнышэвічы нагадваюць і Закапанэ, і Рыа-дэ-Жанэйра, над вёскай узвышаецца гара, якая нагадвае і Гевонт, і Каркаваду. На польскім Гевонце велізарны крыж, на бразільскім Каркаваду велізарная статуя Хрыста-Збаўцы. І на гары побач Кнышэвіч каменная статуя, якую можна лічыць і выявай чалавечай фігуры, і выявай крыжа. І дакладна невядома, што прадстаўляе кнышэвіцкая фігура, бо калі згаданыя аб'екты на Гевонце і Каркаваду зафіксаваны ў розных дакументах, не толькі ў чалавечай памяці, то кнышэвіцкай фігуры з гэтым не пашанцавала. Дарэчы, памяць пра нашу даўніну хісткая, зацерлася яна шляхам гадоў, не толькі пра фігуру ў Кнышэвічах, але і, для прыкладу, пра мабыць значна навейшую капліцу ў Воўкушах, што між Саколкай і Гроднам. Не тое, што пра згаданыя статуі сусветнай вядомасці: статую Хрыста на гары Каркаваду, завершаную ў 1931 годзе, стварыў Поль Ландоўскі, сын бежанца — удзельніка Студзеньскага паўстання, магчыма, што з сакольскімі каранямі... Крыж на Гевонце быў устаноўлены ў 1901 годзе па ініцыятыве ксяндза Казіміра Кашэлеўскага...

А хто і калі стварыў статую на кнышэвіцкай гары? Не ўдалося мне знайсці крыніц, якія б пралілі святло на гэтую тутэйшую гісторыю. Які мастак стварыў фігуру і што ён у ёй хацеў паказаць? Ці гэта меў быць крыж, ці чалавечая фігура? А можа адно і другое запар, бо ж чалавечы лёс гэта ж своеасаблівы від крыжовай дарогі, тае Via Dolorosa, што наканавана нашчадкам першых бежанцаў з Раю? Каменная статуя маўчыць і скрывае сваю тайну. Мастак не пакінуў ніякіх надпісаў, можа ён нават не ўмеў пісаць. А можа палічыў надпіс недастойным перад касмічным асэнсаваннем зместу сваёй працы?..

Побач галоўнай фігуры дзве маленькія фігуркі, а па простай сутнасці гэта два камяні. Можа гэты скульптурны комплекс выяўляе маці з дзецьмі. Можа гэта скульптурная разнавіднасць Адзігітрыі ці Пакрова з індывідуальнымі мастацкімі падказкамі, як славутая зараз карціна Тайнай вячэры Леанарда да Вінчы... Выглядае, што на горцы, якая высіцца над Кнышэвічамі, запісаны нейкі таемны касмічны сэнс.

Бываў я на той горцы, мабыць, нейкіх дзесяць гадоў таму. І не прыгадваю, каб вакол былі нейкія перашкоды, якія заміналі б заходзіць на яе. Зараз туды дабрацца складаней: ад дарогі, што з Кнышэвіч у напрамку Хмялеўшчыны, узараная і абгароджаная паласа ворыва. Прыйшлося мне абысці яе, але плота з жэрдак не ўдалося мінаваць — трэба было пералезці так, як гэта бывала ў маладзейшыя гады; жэрдкі гэта цалкам лёгкая перашкода. Сама гара рэзка падымаецца ад ейнага падножжа, што прыдае ёй яшчэ больш загадкавасці.

З часу маёй апошняй прысутнасці ў вёсцы наступілі некаторыя змены. Будынак былой школы ўжо адрамантаваны і абліцаваны. Дом, у якім прымаў мяне тадышні мой суразмоўца, зараз выглядае пустуючым ад чалавечай прысутнасці. Няма і следу прыватнай крамы, каля якой бываў мясцовы мужчынскі актыў. Частка хат абноўлена, нават тыя, з боку Слоі, пра якія мае колішнія суразмоўцы гаварылі, што пустуюць.

Слоя выглядае вельмі падобна, частка хат абнаўляецца на сучасную моду. А мяне ўразіла аздобленая адмысловымі навугольнікамі мураванка з чырвонай цэглы. Побач спынілася аўтакрама, і я спытаў у зрабіўшай пакупкі бабулькі з суседняй хаты, ці не было ў тым доме нейкай установы, нейкага офісу. Не было, гэты дом пабудаваны быў звычайным селянінам; калі — невядома. А зараз ён пусты...

На ганку супрацьлеглай хаты сядзеў мужчына з беленькай барадою і гарланіў у напрамку аўтакрамы, каб яму прынесці чатыры бутэлькі піва і нейкую „падліну”. Замеркаваў я, што з ім можна было б пагутарыць, але ў яго тое піва здалося быць важнейшым за сонца і хмары — і такі ў чалавека бывае космас...

Пра сонца і хмаркі, значыць пра надвор'е, пайшла ў мяне гутарка з мужчынам, які сядзеў пад паветкай аўтобуснага прыпынку ў Шудзялаве. Час ад часу папіваў ён па глытку хлебнага квасу, што трымаў пад палою; прапанаваў ён пачастунак і мне. Прызнаўся ён, што штодзённа выходзіць на гадзінку пасядзець на аўтобусным прыпынку, паглядзець на свет, перакінуцца словам з праходзячымі па Цэнтральнай вуліцы Шудзялава знаёмымі. І калі ў адзінаццаць гадзін адпраўляецца аўтобус у Беласток, ён, як па гадзінніку, вяртаецца дахаты...

Тэкст і фота **Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

# Беларусы ў Седльцах дыскутавалі аб інклюзіі

У Прыродазнаўча-гуманітарным універсітэце ў Седльцах адбыўся IV Міжнародны кангрэс сацыяльнай інклюзіі. Сёлетні лозунг кангрэса — «Сацыяльная інклюзія — укараненне — версіі і рознагалоссі». У кангрэсе прыняло ўдзел 120 навукоўцаў з Польшчы і замежжа. З Беларусі прыехалі праф. Анатоль Сманцар (Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт у Мінску) з дакладам «Тэарэтычна-метадалагічныя асновы стварэння псіхалагічнай бяспекі для гетэрагеннага інклюзіўнага асветнага асяроддзя» і дацэнт Людміла Вільчынская (Гродзенскі дзяржаўны ўніверсітэт імя Янкі Купалы), якая выступіла з тэмай «Спецыфіка аказання сацыяльна-педагагічнай падтрымкі ў Рэспубліцы Беларусь (на прыкладзе горада Гродна)».

Рэктар Прыродазнаўча-гуманітарнага ўніверсітэта праф. Тамара Захарук сказала «Ніве», што «шанц на сацыяльнае ўключэнне дае інклюзіўная адукацыя, якая асобам адхіленым, маргіналам дае магчымасць атрымаць асвету, знача, забяспечвае чалавеку права на атрыманне адукацыі. Адукацыя і выхаванне для чалавека мае асаблівую вартасць. Ужо Гегель пісаў, што гэтыя два элементы прычыняюцца да таго, што асобы нараджаюцца паўторна, калі вызваляецца ў іх свядомасць свабоды і давер да сябе самога. Прафесар Анатоль Сманцар у сваю чаргу ў размове з «Нівай» адзначыў, што інклюзія — незвычайна важная і актуальная тэма. «інклюзіўная адукацыя стварае ўмовы для самавызначэння навучэнцаў, выпрацоўкі ў іх адказнага падыходу да аднагодкаў, а педагогам і значным асобам — да сябе саміх». На значэнне польска-беларускіх кантактаў звярнула ўвагу дац. Людміла Вільчынская. Сказала яна, што нашы краіны — суседзі. Функцыянуюць яны ў падобнай культурнай прасторы, распрацоўваюць свае метады ўключэння розных сацыяльных груп у актыўнае жыццё грамадства. Абменьваючыся вопытам, даходзім да высновы, што частку метадаў можам прымяняць у сябе. Атрымліваем таксама іншую перспектыву погляду на нашы дзеянні. Трэба памятаць, што інклюзія датычыць не толькі асоб з абмежаваннямі, але таксама можа тычыцца іншых груп, беручы пад увагу іх узрост, пол, нацыянальнасць. Задача сучаснага грамадства — імкненне да поўнага ўдзельніцтва ўсіх грамадзян у грамадскім жыцці, а адным з важнейшых механізмаў дасягнення гэтай мэты з'яўляецца інклюзіўная адукацыя.



■ Злева: праф. Анатоль Сманцар, праф. Тамара Захарук і дац. Людміла Вільчынская

Тэкст і фота **Адама БОБРЫКА**










# http://dokshitsy.narod.ru

Калі чалавек зацікаўлены ў папулярызацыі ведаў пра родны край, то мала што можа стаць для яго перашкодай. І няхай першыя спробы будуць падавацца камусьці як нешта прымітыўна-дылетанцкае, але яно вартае павагі і, магчыма, пераймання досведу. Як прыклад такой юнацкай спробы распавесці пра родную мясцовасць усяму свету можна прывесці Докшыцкі краязнаўчы сайт, што месціцца ў інтэрнэце па адрасе **http://dokshitsy.narod.ru**.

Цяжка сказаць, калі ўзнік дадзены сайт, але адназначна не ўчора, бо, выходзячы на гэтую вэб-старонку, карыстальнік натыкаецца на рэкламную застаўку, магчымасць усунуць якую з'яўляецца праз пэўны час. Гэта абазначае, што ўладальнік сайта ўжо не надта клапоціцца пра яго існаванне. Разам з тым тое, што сайт стварыў вучань мясцовай докшыцкай школы, размясціўшы там вельмі цікавыя тэксты, робіць мэтазгодным расповед пра дадзеную інтэрнэт-бачыну.

„У мяне апошнія тыдні катастрафічна не хапала часу на абнаўленне сайта. Тым не менш, галоўную старонку перарабіць дабраўся. Хутка, напэўна, пачну выкладаць артыкулы і фотаздымкі. Разам з тым я не планую размяшчаць на сайце ўсе свае матэрыялы, бо лічу, што ў тым аб'ёме, у якім я іх маю, яны будуць незапатрабаванымі. Таму, калі хтосьці з вас не знайшоў тое, што хоча знайсці, пакідайце запісы аб гэтым у гасцёўні ці пішыце на э-мэйл. Выказвайце свае прапановы і пажаданні наконт таго, што вы хацелі б бачыць на сайце. Раней я планаваў распрацоўку польскай версіі сайта. Аднак, мабыць, гэтым летам гэтага не адбудзецца", — своеасаблівым чынам вітае наведвальнікаў сайта яго ўладальнік Кастусь Шыталь, які абазначае сябе краязнаўцам-аматарам, які навучаецца ў сярэдняй школе № 1 горада Докшыцы.

Варта адзначыць, што на сайце не знайсці звестак, дзе ж непасрэдна знаходзіцца гэты горад. Толькі зварот да пашуковых сервісаў для тых, хто не надта разбіраецца ў беларускай геаграфіі, дасць магчымасць даведацца, што Докшыцы месцяцца на поўначы Беларусі ў Віцебскай вобласці, у вярхоўях ракі Бярэзіны. На краязнаўчым жа сайце ёсць толькі карта Докшыцкага раёна, якую Кастусь Шыталь адлюстроўвае без прывязкі да рэгіёна ці да краіны.

„Докшыцкі раён. Край, дзе пачынаецца Бярэзіна", — так абазначаны вялікі пералік артыкулаў, якія знаходзяцца ў рубрыцы „Самыя цікавыя мясціны". Праўда, акрамя загалоўкаў артыкулаў з цікавымі назвамі там больш нічога няма. Пры жаданні адкрыць той ці іншы тэкст карыстальнік адразу перанакіроўваецца на сайт Radzima.org, дзе месцяцца фотаздымкі разнастайных беларускіх мясцін.

У той жа час „Артыкулы аб Докшычыне" напоўнены адпаведнай інфармацыяй. Адтуль мы можам даведацца пра паселішча Крулеўшчына, якое ўзнікла, дзякуючы праходзячай у тых месцах чыгунцы. Ёсць звесткі пра пісьменніка Кастуся Акулу, ураджэнца тых месцаў. „Ён напісаў сем кніг, якія, зрэшты, у нас з'яўляюцца практычна забароненымі з-за таго, што не супадаюць з афіцыйнай лукашысцкай ідэалогіяй", — сцвярджае малады цёзка літаратара. Пра гісторыю Докшыцкага краю ў складзе Вялікага Княства Літоўскага, І Рэчы Паспалітай і Расійскай імперыі гаворка вядзецца ў двух адпаведных артыкулах. Цікавыя бачацца і прадстаўленыя фотаздымкі савецкай сімволікі, што дагэтуль існуе ў дадзенай мясцовасці.

**Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ**

## Дата з Календара

Дата з Календара Дата з Календара Дата з Календара Дата з Календара

Выдатны батанік Вялікага Княства Літоўскага



# 170 гадоў з дня смерці Станіслава Юндзіла

Навуковец-прыродазнавец, батанік, доктар філасофіі і тэалогіі Станіслаў Юндзіл нарадзіўся 6 траўня 1761 г. у мясцовасці Ясенцы (сённяшні Воранаўскі раён Гарадзенскай вобласці). Паходзіў са шляхецкага роду Юндзілаў герба „Лебедзь", сын Бенядыкта і Ружы з роду Даўгялаў. Пачатковую адукацыю атрымаў у бацькоўскім доме. Уступіў у ордэн піяраў, навучаўся ў піярскіх калегіумах у Лідзе, Шчучыне, Любашове на Валыні. Два гады настаўнічаў — у Расенях і Вільні. Працягваў адукацыю ў Віленскай акадэміі, дзе слухаў лекцыі вядомага навукоўца Жана Жылібера, які першым распачаў грунтоўнае вывучэнне флоры і фаўны ВКЛ. На яго працы абапіраўся і Юндзіл. У 1785 г. перасяліўся ў Шчучын, дзе ўзначаліў мясцовую піярскую школу. Увёў там курс батанікі і заклаў батанічны садок, упершыню ў сваім жыцці пачаў ствараць навуковы гербарый мясцовай флоры. У выніку рэформ, праведзеных Юндзілам, Шчучынская школа зрабілася адной з найлепшых піярскіх школ. Потым на нейкі час вярнуўся ў Вільню, дзе выкладаў у мясцовай піярскай школе логіку і метафізіку. Неўзабаве ўладальнік Шчучына Сцыпіён запрасіў яго ў свой маёнтак для выхавання сыноў. Там Юндзіл меў багата вольнага часу, каб займацца самаадукацыяй і навукай, прыступіў да калекцыянавання выпханых птушак У 1790 г. пачаў чытаць лекцыі ў галіне заалогіі і гісторыі прыроды ў піярскіх школах. Брак патрэбнага дыдактычнага матэрыялу і падручнікаў падштурхнуў яго да складання адпаведных дапаможнікаў, у якіх даў звесткі пра лекавыя расліны сучасных Беларусі, Літвы і Польшчы. Сабраныя калекцыі ў ваколіцах Вільні, Ліды і Шчучына, на жаль, былі знішчаны і страчаны ў час паўстання 1830-1831 гг.

З 1792 г. Юндзіл — віцэ-прафесар Галоўнай школы ВКЛ. Як найвыдатнейшаму з батанікаў яму выдаткавалі сродкі на паездку за мяжу з мэтай удасканалення ў навуках. Слухаў лекцыі ў Кракаве і Вене, вандраваў у наваколлі Карпатаў, азнаёміўся з акадэмічным батанічным садам у Вене і шэрагам іншых садоў, вывучаў мінералогію Саксоніі, дзе таксама знаёміўся з мясцовымі горна-металургічнымі заводамі, наведаў Прагу, Дрэздэн, іншыя гарады. У 1793 г. наведаў руднікі і горныя заводы ў Вугоршчыне, вывучаў вопыт тамтэйшай ветэрынарнай школы, на ўзор якой меў намер стварыць школу ў Вільні. У сувязі з трэцім падзелам Рэчы Паспалітай не мог вярнуцца ў Вільню, застаўся ў Вене, дзе даваў прыватныя ўрокі і паралельна вывучаў ветэрынарыю. Заклаў у аўстрыйскай сталіцы сад лекавых раслін.

У кастрычніку 1797 г. вярнуўся на пасаду экстраардынарнага прафесара на кафедры натуральнай гісторыі ў Віленскай акадэміі, дзе і заставаўся да канца жыцця. З 1799 г. узначальваў кабінет натуральнай гісторыі ўніверсітэта і батанічны сад, якім кіраваў 27 гадоў. З 1802 г. — прафесар натуральнай гісторыі і батанікі (да 1824 г.). Пакінуў цэлы шэраг грунтоўных навуковых прац. Пад псеўданімам Ваўрынец Кастрыца выдаваў сатырычны часопіс „Biblia-fobia" („Бібліяфобія"). Стварыў мемуары — каштоўную крыніцу з гісторыі Віленскага ўніверсітэта і культурнага жыцця ВКЛ. У 1824 г. па стане здароўя пакінуў працу. У далейшых гадах жыцця друкаваў у перыёдыцы артыкулы, успаміны, часам прасякнутыя горыччу і ірoніяй. На схіле сваіх дзён цалкам страціў зрок.

Памёр 18 красавіка 1847 г. у Вільні, пахаваны на мясцовых Бернардынскіх могілках.

Падрыхтаваў **Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# У Нацыянальнай бібліятэцы
## прэзентавалі кнігі пра беларусаў Падляшша



**У Нацыянальнай бібліятэцы 5 красавіка адбылася сустрэча з Дарафеем Фіёнікам, падляшскім беларусам, аўтарам шэрагу кніг па гісторыі і этнаграфіі, заснавальнікам Музея малой Айчыны ў Студзіводах (ля Бельска Падляшскага).**



Асобнік сваёй самай новай кнігі пра праваслаўнага святара Канстанціна Байко Дарафей Фіёнік падараваў Нацыянальнай бібліятэцы. Раней, таксама ў серыі «Гісторыя і культура падляшскіх беларусаў», выйшлі яго даследаванні пра бежанства, бельскі сойм 1564 г. — іх можна было пабачыць на міні-выставе кніг пра падляшскіх беларусаў з фондаў Нацыянальнай бібліятэкі, што дзейнічала падчас імпрэзы.

Музей малой Айчыны ў Студзіводах выдае таксама краязнаўчы альманах «Бельскі гасцінец». Студзіводы — гэта прадмесце Бельска Падляшскага, якое, па словах Дарафея Фіёніка, магло б сёння быць спальным раёнам. Але 30 год таму на базе хаты сваіх продкаў Дарафей з паплечнікамі стварылі музей вясковага побыту, потым дадаліся яшчэ будынкі... У 2000-м годзе, аднак, было вырашана рэгістраваць асяродак не як музей, а як грамадскае аб'яднанне, што пасля ўступлення Польшчы ў Еўрасаюз дапамагае атрымліваць фінансаванне.

Музей малой Айчыны ладзіць імпрэзы па падтрымцы народнай культуры на працягу ўсяго года. Самае вялікае мерапрыемства ў Студзіводах — фестываль «Там по маёвуй росі». Сёлета ён пачынаецца ў красавіку і доўжыцца да ліпеня. Звычайна на фестываль запрашаюць падляшскія і палескія гурты з Польшчы і Беларусі.

Падляшскія беларусы карыстаюцца асаблівым дыялектам беларускай мовы, нават ёсць падляшска-беларускі слоўнік. Падляшша лічыцца выраем для дыялектолагаў, так шмат там захавалася разнастайных гаворак. Беларусы замежжа цікавыя метраполіі праз тое, што іх мова не нясе адбітку савецкага часу. Пры гэтым Дарафей Фіёнік падкрэслівае: «Мы не перыферыя, у нас, у Супраслі, быў адзін з цэнтраў развіцця беларускай мовы і культуры».

Для наведвальнікаў імпрэзы выступілі народны хор імя А. Рашчынскага і фольк-гурт «Рада». Госцем на прэзентацыі быў дырэктар Інстытута польскага ў Мінску Матэуш Адамскі. Ён на добрай беларускай мове паведаміў: «Запрашэнне было для мяне нечаканым, Інстытут польскі займаецца перадусім прамоцыяй польскай культуры ў Беларусі. Але культура беларусаў Падляшша — істотная частка польскай нацыянальнай культуры. Дзейнасць Дарафея Фіёніка істотная не толькі ў рэгіянальным маштабе, але і ў нацыянальным, і міжнародным».

У канцы імпрэзы слова ўзяў работнік культуры з Любані (Мінская вобласць) Сяргей Выскварка. Ён падараваў падляшскім беларусам бохан хатняга любанскага хлеба і кнігу Анатоля Статкевіч-Чабаганава, а падчас прамовы акрэсліў праблему: «Мы падтрымліваем стасункі з беларусамі на эміграцыі, клапоцімся пра беларускія дыяспары, і ў той жа час часта забываемся на беларусаў, што жывуць там, дзе і жылі, якіх ад нас аддзяляюць не аграмадныя адлегласці, а толькі мяжа». Сяргей Выскварка даўно падтрымлівае сяброўскія адносіны з беларусамі Падляшша і сёлета збіраецца на фестываль «Там по маёвуй росі» з танцавальным майстар-класам.

Гурт «Жэмэрва», у якім спяваюць Дарафей Фіёнік і вядоўца імпрэзы ў Нацыянальнай бібліятэцы Тамаш Суліма, бывае ў Беларусі адносна часта. Ведаюць яго і далей на ўсход, напрыклад, у 2016-м «Жэмерва» выступала ў Сакт-Пецярбургу. Падчас імпрэзы ў Нацыянальнай бібліятэцы дырэктарка Цэнтра нацыянальных культур Вольга Антоненка паведаміла, што ў верасні «Жэмэрва» прыедзе ў Мінск на фестываль мастацтва беларусаў свету.

❖**Алена ЛЯШКЕВІЧ, „Новы Час"**

## Будуюць новыя маставыя

Аднаўленне вуліц у Гайнаўцы з'яўляецца прыярытэтнай справай. Улады горада дбаюць, каб вуліцы былі роўныя, прыгожыя і бяспечныя. Сёлета будуць мадэрнізаваны вуліцы Жаромскага, Вясковая, Сарняя, Яжэмбіновая, Таргоны Завулак і Маламейская, а таксама частка вуліцы Мазуры. Да асфальтавання будуць падрыхтаваны кароткія вуліцы Мядовая, Салодкая і Пчаліная ды Скаўронка, Кукулкі, Сікоркі і Кручай.

Зараз рыхтуюць тэхнічную дакументацыю на перабудову маставых на вуліцах Магноліевай, Язмінавай, Сланечнікавай, Ляшчынавай і Ураджайнай.

У Гайнаўцы дбаюць і пра тое, каб вуліцы мелі роўныя і прыгожыя тратуары. Найбольш задаволеныя з тратуараў гайнаўяне, якія жывуць па вуліцах 3 Мая, Баторыя, Пілсудскага, Беластоцкай, Электрычнай, Касідлаў, Ліпавай, Мілкоўскага, Паддольнай, Простай, Паркавай, кс. Верабея, Ракавецкага, Арміі Краёвай і 11 Лістапада. **(яц)**

# Адгаданка

**Шыфраграма**

Літары адгаданых слоў, перанесеныя згодна з іх парадкавымі нумарамі ў клеткі роспісу, складуць рашэнне — беларускую пагаворку.

1. горад на Дзвіне ў Смаленскай вобласці = 1 _ 24 _ 13 _ 14 _ 10 _;
2. перамог Галіяфа = 11 _ 23 _ 22 _ 7 _ 8 _;
3. Генрык, нарвежскі драматург (1828-1906) = 17 _ 20 _ 3 _ 4 _ 18 _;
4. горад у Чарнігаўскай вобласці на рацэ Асцёр = 5 _ 19 _ 12 _ 21 _ 6 _;
5. возера ў Глыбоцкім районе, якое ў Беларусі лічыцца цэнтрам Еўропы = 15 _ 9 _;
6. пасталелы касец канюшыны = 2 _ 16 _.

**(ш)**

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 |
| | | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
| | | 13 | 14 | 15 | 16 | 17 |
| | | | | | 18 | 19 |
| | | 20 | 21 | 22 | 23 | 24 |

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 14 нумара**

Купальня, аер, вада, сук, неф, граніца, ударнік, васілёк, будзільнік, еўра, джаз, буржуй, Урмія, смага, катод, пан, лінь, барытон.

Рашэнне: **Як у сакавіку снег задувае, будзе ўраджай на гародніну і ярыну**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Анне Дэм'янюк** з Бельска-Падляшскага і **Лявону Федаруку** з Рыбал.


Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk", Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy" prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH" na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH"), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA" oraz „GARMOND PRESS", siedziba redakcji „Niwy".
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA", „KOLPORTER", „RUCH" — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy" — kwartalna 60 zł., półroczna 120 zł., roczna 240 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER" na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$.

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje:**
**Rada Programowa Tygodnika „Niwa",**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład:** 1 300 egz.


# 23.04 — 29.04

**(22.03. — 20.04.)** Яшчэ 23.04. адазвуцца ворагі, ды не турбуйся. Спакойна намячай мэты і рэалізуй іх. Ты моцны і нават адчайны, упарты, раскладзеш усё па папачках і ўпарадкуеш сваё жыццё. Хтосьці схоча цябе вабіць і адначасова адпіхваць. Або ты будзеш падаваць неадназначныя сігналы. Можа прытрапіцца табе вялікае каханне. 27.04. абавязкова зайграй у лато!

**(21.04. — 21.05.)** Найбольш дасягнеш, калі будзеш дзейнічаць хутка, баявіта і рашуча. Толькі не наступі каму на мазоль. Асабліва не дай сябе справакаваць 26-28.04. Аформіш усе найважнейшыя справы. Прачнуцца ў табе мастацкія таленты. Будзе шанц на новае каханне! Шукаючы працу, рэкламуй сваю асобу, таксама ў інтэрнэце. Пры пакупках абмінай усялякія «залатыя нагоды». Карыстайся добрымі алеямі ў ежу і касметыку.

**(22.05. — 22.06.)** 22-24.04. паправяцца твае адносіны з кіраўніцтвам. Але 23.04. будзь вельмі асцярожны, каб не скампраметавацца. Удалае знаёмства і сувязі пасля 28.04. — будзе так, як марыш! Запланаў выезд з раднёй ці сябрамі. Будзе ўзнагарода на працы, але калі ты не камбінаваў і не звальваў работу на іншых. У фінансах адаб'ешся ад дна, але ўсё абдумвай. Дыхай глыбока і спакойна.

**(23.06. — 23.07.)** Не спавальняй тэмп, пры падтрымцы Марса зробіш столькі, колькі не ўдавалася табе ў іншы час. Пакажаш, хто тут герой. Баявітасць, жыццярадаснасць. Справішся ў кожнай сітуацыі. Жыццё піша табе новы, цікавейшы сцэнарый. 26.04. наступіць сапраўдны пералом. Праўда, Ракі з другой дэкады будуць прыцягваць аматараў з цяжкім характарам і моцна складнай асабістай сітуацыяй. Вучыся новага, хаця б аднаго слоўца ў дзень.

**(24.07. — 23.08.)** Старайся не «падпасці» Ваддалею. Будзеш актыўна дзейнічаць. Магчымыя канфлікты на працы, але ты на гэтым можаш мецць нейкі прыбытак. Рамансуй пaціху, бо можа быць скандал. Турбуючыя таямніцы ў сям'і. Народжаныя ў трэцюю дэкаду: прыліў творчых сіл. Знойдзеш спонсараў на тваю задуму. Апранайся цёпла, вірусы цікуюць!

**(24.08. — 23.09.)** 22-24.04. шанцы на канструктыўныя змены. Больш абавязкаў, але шыкуюцца ўзнагароды. Не знеахвочвайся, рабі сваё. Адазвуцца далёкія сваякі. На рабоце не рассакрэчвай усім сваіх таямніц. Магчымы землятрус на рабоце, змены, могуць цябе паслаць у камандзіроўку. Магчымы творчы неспакой, але не турбуйся, можа табе прынесці гэта задуму на сваю творчасць. У фінансах час збірання, не расходавання.

**(24.09. — 23.10.)** 22-24.04. адчуеш, што гэта ты кіруеш сітуацыяй. 26-28.04. пільнуйся, каб не выдаць чыёгась сакрэту. Удалыя паездкі. Будзеш добра сарганізаваны і ўдачлівы. Здабудзеш добрага знаёмага — ён не будзе дзерці пысу ў кампаніі. Калі ты нарадзіўся на пераломе другой і трэцяй дэкады — чакае цябе павышэнне. Баляць табе плечы — перакінь торбу на другое плячо.

**(24.10. — 22.11.)** Усё залежыць ад цябе. Не злуйся, спакойна выйдзеш на плюс. Не ўяўляй прасторы ў сваёй пары як поля бою, бо эмоцыі сягнуць зеніту. Рост эратычных патрэб і спадзяванняў! Прыцягнуць цябе грамадскія справы, падзейнічай у суполцы, арганізацыі. Скарпіён з другой дэкады можа ўзяць бізнес у свае рукі. Для народжаных у трэцяй дэкадзе будуць цікавыя прафесійныя прапановы і нагоды падзарабіць.

**(23.11. — 22.12.)** 22-24.04. шматабяцальныя прафесійныя ды кампанейскія кантакты. 26-28.04. проста лавіна задум і ідэй. Пакажаш свае найлепшыя бакі. Будзеш гуляць на ўсю катушку, заззяеш досціпам і выглядам. Заўважаць цябе, можаш здабыць добрую працу.

**(23.12. — 20.01.)** Удала справішся з праблемамі. Рамантычныя хвіліны. Моцна ўзрасце патрэба быць каханым, але асоба, аб якой марыш, можа быць недасяжнай (або раздзеліць вас дарога). Не дай адчуць радні, што праца для цябе важнейшая. 22-24.04. добра складзеш адносіны на працы, абавязкі не будуць цяжарам. Купіш штосьці файнае для сябе, сям'і ці дому. Не пі энергізуючых напояў.

**(21.01. — 19.02.)** Творча падыдзеш да праблем і развяжаш іх усе. 26.04. можаш разлічваць на прызнанне і ўдзячнасць. Удачы на кожным полі. Калі шукаеш працу, папытайся ў знаёмых, з кім ты працаваў раней. Інвестуй у нетыповыя мерапрыемствы, спрыяе табе ўсё, што адстае ад схемы. І хутка можаш пабагацець.

**(20.02. — 21.03.)** Пачнеш рашаць сам аб сабе. 26.04. можаш спадзявацца дадатковай крыніцы прыбыткаў. Але 27-30.04. магчымае расчараванне. Працуй над сабой. Не дазволіш сябе больш уводзіць у зман у пачуццях. Фінансавыя нагоды будуць самі трапляць табе ў рукі. Хораша зменіш свой імідж.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

# У палескай глыбінцы (82)



Тадэвуш Касцюшка, самы вядомы ў свеце паляшук, ажно пяць гадоў жыцця правёў у Любашове. У адукацыйны цэнтр над Стаходам, расслаўлены прэстыжнай калегіяй піяраў, трапіў дзесяцігадовым хлапчуком. Як дабіраўся са сваёй Мерачоўшчыны ў Любашоў? Верагодна, значны адрэзак дарогі пераадольваў вадзяным шляхам. У 1755 годзе падарожжа па вадзе явілася звычайнай практыкай на Палессі. А вада, балоты, веснавыя разводдзі прамаўлялі як свойскі, і заадно непрадказальны, небяспечны свет. Адвечнай марай жыхароў гэтай зямлі было абжыць і пакарыць вадзяную стыхію.

Касцюшка ў маладыя гады таксама марыў, каб прыдбаць радзіме стабільную дарожную інфраструктуру. Амерыканска-польскі даследчык Алекс Старажынскі ў грунтоўнай біяграфіі «Тадэвуш Касцюшка, кароль мужыкоў»* прыводзіць малавядомыя моманты біяграфіі героя. Касцюшка з маладых гадоў моцна прагнуў прыслужыцца радзіме. Спачатку ён бачыў сябе інжынерам, які аддасць усе веды і талент мадэрнізацыі балотнай краіны. Па веды з галіны меліярацыі ён спецыяльна падаўся з Парыжа ў Нідэрланды, каб там прыгледзецца пабудове каналаў і польдараў.

Усё гэта адбывалася перад выездам у Амерыку, куды Касцюшка таксама быў запрошаны як здольны інжынер. Мары ад роднага Палесся фармавалі яго асобу як змагара і чалавека. За акіянам праславіўся як ваенны архітэктар, які па даручэнні Джоржа Вашынгтона пабудаваў форт на ўзгор'і Вэст-Пойнта. Гэтая геніяльная будоўля спрычынілася да незалежнасці Злучаных Штатаў, а сам Тадэвуш Касцюшка стаў увасабленнем свабоды маладой краіны.

Алекс Старажынскі называе свайго героя князем талерантнасці. Касцюшка ўсё жыццё змагаўся за правы прыгонных сялян, жыдоў, амерыканскіх індзейцаў, жанчын і іншых ахвяр дыскрымінацыі. Ганарар, які атрымаў ад амерыканскага ўрада, прызначыў на выкуп свабоды для вялікай колькасці неграў.

— Шчаслівы чалавек, — паўтараў Тадэвуш Касцюшка, — гэта той, які сам вырашае пра свой лёс.

* * *

У Любашове я таксама адчувала сябе шчаслівай, паколькі падбадзёрвала свядомасць, што ступаю па слядах Касцюшкі, нацыянальнага героя Амерыкі, Польшчы і Беларусі. У цэнтры захаваўся будынак былой калегіі піяраў. Мясцовыя ўлады надта літаральна адчыталі назву манаскага ордэна ды размясцілі ў будынку піўны бар. Забягалаўка палохала ўжо здалёк. Калі я пераступіла парог, з сярэдзіны, быццам хімічная бомба, паразіў дзіка-ядавіты пах алкагольнага гару. Нягледзячы на падазроны водар, усярэдзіне прабываў, то-бок драмаў на стале, адзін кліент...

Аднак большая частка гістарычнага будынка служыла культурным установам. Тут знаходзілася рэдакцыя раённай газеты «Новае жыццё» і адукацыйныя ўстановы, сярод якіх найбольшую прэстыжнасць займела музычная школа.

Над уваходнай аркай я прачытала надпіс: ***Tu kształcił swą wzniosłą duszę i umysł Tadeusz Kościuszko 1753-1759.*** Пафасны надпіс, калі ўлічыць грунтоўныя доследы біёграфаў, змяшчае памылку. Касцюшка прыехаў у Любашоў у 9 гадоў жыцця, дакладна ў 1755 годзе. Закончыць калегію яму, аднак, не пашанцавала. Пасля смерці бацькі з-за фінансавых недахопаў Касцюшка быў вымушаны вярнуцца ў свой сціплы маёнтак. Але не парваў з навукай. Адукацыю працягваў пад вокам свайго дзядзькі і знаёмага ксяндза. Гэта дазволіла яму пазней паступіць у Рыцарскую акадэмію ў Варшаве...

Несумненна, час праведзены ў Любашове прыадчыніў яму вароты ў свет ідэі, мастацтва і навукі. У сярэдзіне XVIII стагоддзя мястэчка належала кашталяну Яну Антонію Чарнецкаму. Побач калегіі ўзвышаўся мураваны будынак касцёла піяраў. За яго пабудовай назіраў прысланы з Рыма нунцый. Пасля, у другой палове сямідзясятых гадоў, той жа Чарнецкі, апантана закаханы ў Любашове, фундуе касцёл і манастыр капуцынаў. Мясцовыя па сённяшні дзень расказваюць пра каштоўныя рукапісныя кнігі, іконы на пергаменце ды залатыя скульптуры, якія аздаблялі касцёл. Мяне інтрыгавала яшчэ вестка, што ў часы вучобы Касцюшкі пад Любашовам пракладалі таемныя падземельныя ходы. Інвестыцыя, беручы пад увагу балотны ландшафт, была звышкаштоўнай, тунэлі праходзяць пад дном Стахода і яго адгалінаваннямі. Як не цікава, падобныя падземельныя ходы Касцюшка прымяніў у форце на Вэст-Пойнце.





Магчыма, у часы вучобы ў калегіі разам з аднагодкамі ён залазіў у падземеллі. Апошнюю думку ўнушалі размовы з сучаснымі туземцамі. Кожны любашовец у дзіцячыя гады зведаў тунэлі, бо надта ж вабіла іх легенда і аўра небяспечнасці...

Тадэвуш Касцюшка з першых дзён адчуваў сябе свабодна і бяспечна ў Любашове. У той жа калегіі вучыўся яго старэйшы брат Юзаф, які з ходу ўвёў малодшага брата ў маладзёва-школьныя тусоўкі і сяброўскія прагулы.

* * *

Я паднялася на паверх калегіі, дзе дзвесце пяцьдзясят гадоў перада мной праходжваўся маладзенькі кадэт Касцюшка. Гістарычны калідор са столлю, упрыгожанай геаметрычнымі аркамі, наклікалі павагу. Праўда, той настрой засяроджанасці разбіваў ружовы колер, у які памаляваны калідор. Я пайшла на канец, каб трапіць у прыхаваную каморку. У ёй захоўваліся палены, складзеныя ў роўны кастрог. У іншай частцы была прыхавана заіржавелая прыбіральня. Побач унітазаў стаяў мяшок з вапнай для дэзынфекцыі.

Нацыянальны парк «Прыпяць-Стаход» у будучыні хоча мадэрнізаваць частку будынка ды наладзіць мемарыяльны музей Тадэвуша Касцюшкі. Пад уплывам пабачанага ідэя паказалася мне геройскай і перш за ўсё звышкаштоўнай.

Любашоўскі перыяд даволі цьмяна прадстаўлены ў біяграфіі славутага палешука.

Вядома, што манахі-настаўнікі прыкмецілі мастацкі талент маладога Тадэвуша, які пасля штудзіраваў у Парыжскай акадэміі мастацтваў...

Гады навукі ў любашоўскай калегіі гэта пераломны і знакавы момант у галіне адукацыі ў Рэчы Паспалітай, пачатак эпохі Асветніцтва. У калегіі прымянялі новую праграму навучання ксяндза Станіслава Канарскага, найбольш вядомага піяра, які рэфармаваў школьную асветную сістэму XVIII стагоддзя. На ўроках навучэнцы былі абавязаны пазнаёміцца з тэорыяй грамадскай дамовы, якую прыдумаў брытанскі філосаф Джон Лок. Паводле яе, жыхары краіны давяраюць уладзе ўрада, які ўзамен запэўніць ім мір і грамадскі парадак.

Сам Касцюшка быў захоплены светам старажытнай Грэцыі і Рымскай імперыі. Чытаў творы Тацыта, Плутарха і Арыстыда. Найбольшае захапленне выклікала біяграфія Цімалеона, грэчаскага героя і военачальніка, які вызваліў жыхароў Сіцыліі ад тыраніі, а пасля з-пад дыктатуры Карфагена. У сваім героі найбольш любіў бескарыслівасць. Пасля, яго ўзорам і кумірам праз гады будзе Карл XII, праз што Касцюшку стануць празываць «шведам». Шведскі манарх (які стаў каралём у 15-гадовым узросце) будзе натхняць бравурнымі паходамі супраць Пятра I.

(працяг будзе)

Фота і тэкст **Ганны КАНДРАЦЮК**

* Alex Storozynski, *Kościuszko, książę chłopów*, W.A.B.,Warszawa 2011.

ISSN 0546-1960 17